# ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ



ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982

ГОД 19/25 | ЛЕТА 1997 | 2/43/53


## НІ ЮДЭЙ, НІ ЭЛІН, ... АНІ МАСКВІН

### НЕ ПАСТАЎЛЕНЫ НАД ІНШЫМІ, А ЎСЕ РОЎНЫЯ ПЕРАД БОГАМ

ГУТАРКА ЗЬ ПЕРШАГЕРАРХАМ БАПЦ Я. М. МІТРАПАЛІТАМ ІЗЯСЛАВАМ

***Барыс Данілюк:*** *Дзякую Вам, Уладыка, што былі ласкавыя даць згоду на гутарку з прадстаўнікоМ Рэдакцыйнае Калегіі "Царкоўнага Пасланца", якім выпала быць мне.*

*Патрэба гэткае гутаркі вычувалася ўжо даволі даўно, бо як на Бацькаўшчыне, гэтак нават і на эміграцыі няма належнага зразуменьня, што такое Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, чаму Яна для духовага аздараўленьня Беларускага Народу й беларускага нацыянальнага адраджэньня неабходная й, што рабіць, каб зразуменьне Ейнае неабходнасьці ў гэтым аздараўленьні й адраджэньні ўзмоцнілася за мяжою ды пашырылася на Беларусі.*

*На гэтыя й іншыя пытаньні, што датычаць БАПЦ, ніхто, апрача Вас, ня зможа даць дастатковых адказаў і таму дазвольце цяпер імі зайняцца.*



**Мітрапаліт Ізяслаў:** Я рад і гатовы гутарыць з кожным беларусам, асабліва праваслаўным, што цікавіцца Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою й не мяркуе выкарыстаць гутарку супраць Яе, а шукае праўды ў царкоўных справах.

Я таксама згодзен з Вамі, што патрэба гэткае гутаркі нятолькі з адзінкамі, але й з шырокім колам чытачоў "Царкоўнага Пасланца", вернікаў БАПЦ і наагул пабожных праваслаўных беларусаў даўно насьпела ды гатовы да адказаў на Вашыя пытаньні.

***Б. Д.:*** *Мне здаецца, што тлумачэньне складовых словаў назову нашае Царквы дасьць добры пачатак адказу на закранутыя пытаньні, зь якога будзе можна разьвіваць далейшы зьмест размовы.*

**М. І.:** На гэткі адказ патрэбнае перадусім тлумачэньне што такое Царква наагул, якое даецца ў навуцы веры, або катэхізісе.

У скароце яго можна пераказаць словамі: Царква гэта ўстаноўленае й асьвячанае Хрыстом згуртаваньне Ягоных пасьлядоўнікаў, што захоўвае Ягоную Навуку й трымаеццааднае, перададзенае ад Сьвятых Апосталаў іхнымі наступнікамі, Веры.

Далей неабходнае выясьненьне, што разумеецца пад словам "праваслаўная" й навука веры кажа аб гэтым так: "праваслаўны", г.зн. той, хто вызнае правільную веру, што на аснове апостальскіх вешчаньняў была пададзеная ў пастановах і правілах 7-мі Сусьветных Сабораў і растлумачаная царкоўнымі настаўнікамі - Сьв. Айцамі.

***Б. Д.:*** *Выбачце, што перарву Вас, але ўспомніўшы азначэньні Царквы ў Выяве Веры як "аднае саборнае й апостальскае", хачу папрасіць выясьненьня гэтых словаў.*

**М. І.:** "Адна саборная", гаворачы на тэму нашае гутаркі, значыць нічога іншага як "адна на ўсім сьвеце", аднак, у праваслаўным разуменьні маецца наўвеце ня сусьветная царкоўная манархія, ці імпэрыя, а супольнасьць задзіненых Хрыстовай Навукай ды неаднолькавых паводле нацыянальных асаблівасьцяў, а роўных адна адной частак Царквы з усіх куткоў зямлі.

Само па сабе зьяўляецца й дадатковае тлумачэньне, што асягненьне запраўднае гэткае супольнасьці магчымае толькі шляхам сабораў, або йнакш зьездаў, ці нарадаў усіх раўнапраўных ягоных частак.

Паўстае, усё-ж, пытаньне акрэсьленьня хто, або, лепш кажучы, якія згуртаваньні вернікаў да гэтае супольнасьці належаць і тут на дапамогу прыходзіць азначэньне "апостальская", г.зн. тая праваслаўная грамада, да духавенства якое праз "палажэньне рук" папярэднікаў праз пакаленьні дайшоў Дар Сьвятога Духа ажно ад Сьв. Апосталаў.

Гэткім чынам усялякія, быццам праваслаўныя, супалкі рэлігійнага адценю, якія апошнім часам на Беларусі арганізуюць і ачольваюць асобы, што пераемства Дару Сьв. Духа ад Сьв. Апосталаў не атрымалі, а самыя сябе на духаўнікоў паставілі, зусім ня ёсьць праваслаўнымі грамадамі, ці часткамі Праваслаўнае Царквы, ды не вядуць спадзеўных на іхныя абяцаньні людзей да збаўленьня, але зманваюць іх на грэх.

***Б. Д.:*** *Дзякую, Уладыка, за адхіленьне ад пачатае тэмы на дадатковыя выясьненьні ды прашу вярнуцца да далейшых азначэньняў БАПЦ.*

**М. І.:** Добра. Займемся цяпер тэрмінам "аўтакефалія". Нажаль, у ніводным зь ведамых мне падручнікаў навукі веры няма згаду аўтакефаліі, а тым больш беларускае.

Вось-жа слова "аўтакефалія" значыць самакіраўніцтва, што на справе выяўляецца ў існаваньні адміністрацыйна незалежных адна ад аднае нацыянальных цэркваў, якія, аднак, дакладна захоўваюць правілы й традыцыі праваслаўнае веры.

Пакольскі ўсе іншыя народы йз значным лікам праваслаўных вернікаў маюць свае аўтакефальныя цэрквы,

(ПРАЦЯГ НА 2-й БАЧ.)

## НІ ЮДЭЙ, НІ ЭЛІН, ... АНІ МАСКВІН ...

(ПРАЦЯГ З 2-е БАЧ.)

і праваслаўная большасьць Беларускага Народу таксама мае права на гэткую Царкву й Яна ў яго ёсьць, хоць дзеля няспрыяльных абставінаў на Бацькаўшчыне часова знаходзіцца за мяжою.

*Б. Д.: Дзе й як гэтае права на самакіраўную нацыянальную царкву выяўленае, ці запісанае?*

**М. І.:** Гэтае права перш за ўсё вынікае з Божае волі, што падзяліла людзкі род на паасобныя народы, даючы кожнаму родную мову й іншыя асаблівасьці ды частку зямлі, каб зь яе жывіцца ды зь любасьцяй даглядаць.

Пацьверджаньнем гэтае Божае волі было сыйсьцё Сьв. Духа на Хрыстовых Апосталаў, зь якога яны атрымалі дар весьціць Збаўцовую Навуку на розных створаных Богам мовах, бязь зьверхнасьці якое-колечы аднае над іншымі.

Гэтае права замацаванае яшчэ й ў 34-м правіле, што Сьв. Апосталы зборна ўстанавілі дзеля зладнага разьвіцьця Царквы, будову Якое яны пачалі.

У ім кажацца: "япіскапам кожнага народу трэба ведаць першага паміж імі й вызнаваць яго за галаву, ды ня чыніць нічога звыш іхнае ўлады бязь ягонага дазволу".

Разглядалася гэтае пытаньне й на сусьветных ды краёвых царкоўных саборах, калі даводзілася бараніць ад спробаў падпарадкаваньня мацнейшымі суседзямі раней ужо зайснавалыя аўтакефальныя цэрквы, ці вызнаваць новаствораныя.

Трэба сказаць, што прынцып права кожнага народу на самакіраўную нацыянальную царкву ўва ўсіх, зашматлікіх, каб тут цытаваць, саборных пастановах быў пацьверджаны й замацаваны.

У гэтым, зрэштай, няма ніякага дзіва, бо ня можа быць сумневу, што няволеньне іншых у Хрыстовае Імя йдзе супраць Ягонае Навукі.

Не дарма бо Сьв. Апостал Павал ў лісьце да Галатаў (3, 28) кажа, што сярод Хрыстовых пасьлядоўнікаў не павінна быць падзелу на нявольных і вольных, ці юдэяў і элінаў, г.зн. ніжэйшых і тых, што ставяць сябе вышэй над іншымі, таму, што ўсе роўныя перад Богам ды роўныя ад Яго атрымалі правы.

Гэткім чынам і займаньне зямлі й нішчэньне царквы суседняга народу кожным іншым ды гаспадараньне ў іх ёсьць антыхрыставай дзеяй ды агіднае Богу.

*Б. Д.: Як-жа гэтае права зьдзяйсьнялася ў практыцы?*

**М. І.:** Трэба, нажаль, сказаць, што далёка не палюбоўна й ня згодна з наказамі Хрыстовае Навукі.

Справа ў тым, што з пашырэньнем хрысьціянства ў дзе-якіх дзяржавах адбывалася й прысваеньне ягоных уплываў на людзкія душы сьвецкімі ўладамі, ды выкарыстоўваньне гэтых уплываў на супярэчныя хрысьціянству імпэрскія мэты.

Зразумелая рэч, што зь нягоднага атаясамленьня хрысьціянскіх зь імпэрскімі мэтамі зьявілася й варожасьць да аўтакефалісцкіх паймкненьняў у царкоўным жыцьці, у выніку якое амаль усе сёньня аўтакефальныя праваслаўныя цэрквы, няраз доўга застаючыся нявызнанымі, муселі за асягненьне аўтакефаліі цяжка змагацца.

Сёньня гэткае змаганьне за ўжыцьцяўленьне права на аўтакефалію вядуць яшчэ Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ды Украінская Праваслаўная Царква й няма сумневу, што Яны, як і іхныя папярэдніцы ў гэтым змаганьні, асягнуць перамогу.

Сумна толькі, што сёньня ўжо аўтакефальныя цэрквы, асягнуўшы іхную мэту, ставяцца да зайнятых яшчэ змаганьнем за жыцьцё сястрыных ім цэркваў з абыякавасьцяй, або й з фарысэйскай вышэйшасьцяй, хоць у у 37-м правіле 6-га Сусьветнага Сабору захоўваюцца правы йснаваньня цэркваў з зайнятых ворагамі краёў.

*Б. Д.: З Вашых словаў, Уладыка, вынікае, што цяпер БАПЦ мае блізкія дачыненьні адно з Украінскаю Праваслаўнаю Царквою?*

**М. І.:** Блізкасьць паміж гэтымі дзьвюма сястрынымі Цэрквамі ужо працяглая традыцыя, што данядаўна была фармальнай малітоўнай лучнасьцяй БАПЦ з абедзьвюма часткамі УПЦ, як у дыяспары, гэтак і на Украіне.

Із спэцыфічных для ейнае сытуацыі меркаваньняў частка УПЦ за мяжою пару год назад падалася ў юрысдыкцыю Канстантынопальскага патрыярха.

У выніку гэтага кроку дачыненьні зь ёю застаюцца паранейшаму прыязнымі, а малітоўная лучнасьць і супрацоўніцтва з галоўнай часткай - Кіяўскім Патрыярхатам трывае далей.

Тут трэба адзначыць, што, вызнаньне аўтакефаліі ў практыцы, абапіраецца, нажаль, на дзяржаўна-тэрытарыяльны прынцып, які не прадбачыць выдаленьня з праваслаўнае супольнасьці скарумпаваных цэркваў, што сталі прыладай нягоднае ды захопніцкае палітыкі варожых сьвецкіх уладаў, ані дапушчае йснаваньня нацыянальных, ці этнічных цэркваў, што ў выніку тае палітыкі не асягнулі яшчэ, як Украінская Праваслаўная Царква, бязвынятковае юрысдыкцыі ў іхным краі, або, як БАПЦ, знаходзяцца за ягонымі межамі.

У выніку гэткага прыплюшчваньня вачэй на адыход ад Божых наказаў у дзейнасьці некаторых цэркваў не скасоўваецца й несправядлівасьць, праз якую родныя іхным народам Кіяўскі Патрыярхат УПЦ і Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква дасюль ня вызнаныя за кананічныя, а тыя, калі можна назваць, цэрквы, што, дзякуючы гвалту чужое сьвецкае ўлады, духова й фізычна зьняволілі суседніх вернікаў, замест атрымаць зганьбаваньне, пышацца ў славе незаслужанае "кананічнасьці".

Дзякуючы, аднак, Богу, лучнасьць і супрацоўніцтва паміж пакрыўджанымі Праваслаўнымі Цэрквамі Украінскага й Беларускага Народаў, якое, спадзяюся, паглыбіцца й памацнее пасьля майго недалёкага наведу Кіява, дае пэўнасьць, што Божая праўда пераможа.

*Б. Д.: У пачатку нашае гутаркі Вы, Уладыка, сказалі, што Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква прыяе захаваньню й разьвіцьцю дадзеных Богам Беларускаму Народу асаблівасьцяў й заступаецца за ягоныя дагодныя Богу, інтарэсы.*

*Здаецца, што гэткая заява ад праваслаўнага герарха для нашых суродзічаў на Бацькаўшчыне нязвычная й патрабуе дакладнейшага высьвятленьня.*

*Ці не схацелі-б Вы, хоць коратка, гэта зрабіць?*

**М. І.:** Нажаль. не бяз дапамогі бязбожных уладаў і іхных у духоўніцкую адзежу апранутых памагатых у нашым грамадзтве стварылася ўяўленьне Царквы як нейкага падабенства тэатру, што займаецца адправамі й абрадамі ды, для прызваітасьці пажурваючы гледачоў за нягодныя ўчынкі, абяцае ім за паслухмянасьць сьвецкім гаспадарам рай на небе.

З гэтага пагляду й беларускія адраджэнцы з Царквы не патрабуюць нічога, апрача спэктакляў у беларускай мове й ніякае іншае ролі ў нацыянальным жыцьці Ёй не прадбачаць.

Калі-ж прыгледзімся да нашых суседзяў, дык заўважым, што ў іхным нацыянальным жыцьці цэрквы нятолькі выконваюць вядучыя ролі, але й абяртаюць гэтыя ролі ў рухавікі агрэсыі да сумежных народаў ды іхнае асыміляцыі, як гэта робіцца ў дачыненьні да нас.

Ня дай, Божа, каб Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква калі-колечы ў гэткую прыладу нятолькі крыўды ды захопніцтва, але й народагубства абярнулася.

Усё-ж рухавіком беларускага адраджэньня Яна мусіць стаць, як дзеля выкананьня вызначанае Ёй Божым наказам ролі, гэтак і дзеля збыцьця мэтаў самога адраджэньня.

***Б. Д.:*** *Што гэта значыць?*

**М. І.:** Наш Збавец Ісус Хрыстос найгалоўнымі наказамі назваў "над усё любіць Госпада Бога ды свайго бліжняга, як самога сябе".

Як ужыцьцяўляць любасьць да Бога амаль усе ў нас, што ў Яго вераць, з большага ўяўляюць, але якога бліжняга, апрача свае сям'і, любіць, пераважна мала хто разумее, ці над гэтым задумоўваецца.

А хто-ж яшчэ той бліжні, як ня Беларускі Народ, зь якога мы пайшлі на сьвет, ды наш Богам нам дадзены Край, на дабры зь якога мы ўзрасьлі.

З гэтага й вынікае, што запраўды пабожны беларус ня можа ня быць патрыётам роднага яму краю - Беларусі.

Нажаль, чужая й адступная ад Збаўцовых наказаў царква, што гаспадаруе на нашай Бацькаўшчыне, здаўна й дасюль калечыць душы праваслаўных вернікаў пропаведзяй грэблівасьці да нашае спадчыны, ды зрады нацыянальных імкненьняў.

Загаіць і вылячыць гэтае калецтва, ды накіраваць аздароўленыя ад нацыянальнага нігілізму, ці манкурцтва душы вернікаў на дагодныя Богу шляхі нацыянальнага разьвіцьця й росту - адно з галоўных заданьняў, якое ставіць перад сабою БАПЦ.

***Б. Д.:*** *Ці праз гэта БАПЦ ня стане, як і маскоўская царква, паслужніцай, хай сабе й беларускіх, але сьвецкіх дзяржаўна палітычных інтарэсаў?*

**М. І.:** Зусім не, бо перш за ўсё БАПЦ ўважае, што аддзяленьне царквы ад дзяржавы правільны й карысны для Яе стан, ды будзе забяспечаную гэтым станам Ейную незалежнасьць ад якіх-колечы сьвецкіх уладаў захоўваць і бараніць

Інакш Яна ня зможа выконваць Ейнае фундамэнтальнае заданьне настаўляць вернікаў на згоднае з Божымі наказамі жыцьцё й весьці іх да збаўленьня на небе.

Настаўленьня на праведнае жыцьцё толькі словам, аднак, замала й таму БАПЦ імкнецца й дзейна ўводзіць вернікаў у практыку гэткага годнага жыцьця.

***Б. Д.:*** *Якім чынам?*

**М. І.:** Парахвіі, ці царкоўныя асяродкі БАПЦ і іхныя будынкі павінны быць нятолькі мейсцамі малітоўных збораў, але й грамадзкімі цэнтрамі ваколіцаў, дзе яны знаходзяцца.

У гэтых цэнтрах павінна канцэнтравацца мяйсцовае арганізацыйнае, культурнае й разрыўковае жыцьцё вернікаў усіх узростаў, удзел у якім мае быць адчынены й насельнікам іншае веры.

Апрача гэтага яны павінны быць яшчэ й дараднікамі, ды памочнікамі ў разьвязаньні жыцьцёвых людзкіх праблемаў ды заахвочвальнікамі ў годных паймкненьнях.

Ведама, што ўсё гэта само па сабе ня станецца, а будзе асягнутае, як і шмат рабілася ў нас дабра раней, пабожнаю талакою.

На гэтую талаку добрых учынкаў патрэбен новы тып ахвярных сьвятароў - нятолькі выканальнікаў абрадаў, але й грамадзкіх дзеячоў ды нават і павадыроў.

Да супрацоўніцтва-ж зь імі павінны знайсьціся й новага тыпу вернікі - не пасыўныя назіральнікі адправаў, але дзейныя й творчыя ў царкоўных справах людзі.

***Б. Д.:*** *Дзякую Вам, Уладыка, за глыбока зьмястоўную гутарку, што дасьць чытачам "Царкоўнага Пасланца" шмат матарыялу для развагаў.*

**М. І.:** Няхай наш Збавец Ісус Хрыстос умацуе Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, сьцеражэ Беларускі Край ды мае верны Яму Беларускі Народ і Вас у Ягонай апецы.

# ВЕСТКІ Й ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

## АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАДАРОЖЖА Ў КІЯЎ

Супольнасьць гістарычных шляхоў і згоднасьць імкненьняў у змаганьні супраць увасобленага ў Маскоўскім патрыярхаце расейскага імпэрыялізму наказваюць патрэбу бліжэйшае лучнасьці й цясьнейшага супрацоўніцтва паміж Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою й Кіяўскім Патрыярхатам Украінскае Праваслаўнае Царквы.

З гэтай мэтай Першагерарх БАПЦ Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў на запросіны Яго Сьвяцейства Патрыярха ўсяе Украіны-Русі Філарэта І-га, дзеля сустрэчы зь ім і зь іншымі герархамі ды ўрадавымі асобамі УПЦ, паміж 1-м і 10-м верасьня г.г. наведае Кіяў ды, магчыма, іншыя месты Украіны.

Суправаджаць Уладыка ў падарожжы будзе сакратар Кансысторыі БАПЦ сп. Барыс Данілюк.

Парадак уладыкавага побыту на Украіне, як толькі стане канчаткова ўстаноўлены, будзе дасланы ў рэдакцыі свабоднае беларускае прэсы й радыяперадачаў, каб зацікаўленыя быць сьветкамі гэтае падзеі, або ахвочыя сустрэцца зь Першагерархам БАПЦ, атрымалі патрэбную ім інфармацыю.

Справаздача з падарожжа будзе зьмешчаная ў наступным нумары "Царкоўнага Пасланца".

## НАВУКА НА СЬВЯТАРОЎ

З палітычных ды павязаных зь імі матэрыяльных прычынаў БАПЦ сёньня ня мае свае вучэльні для падрыхтоўкі сьвятароў, безь якіх узнаўленьне роднае Царквы на Бацькаўшчыне немагчымае.

Дзякуючы прыязнай увазе Кіяўскага Патрыярхату УПЦ нядаўна зьявілася магчымасьць атрымаць дапамогу ў гэтай патрэбе пасылаючы некалькі кандыдатаў да сьвятарскае службы на навуку ў Духоўную Вучэльню на Украіне.

Прадбачаны працяг навукі ў ёй 2 гады, у выняткавых выпадках ён можа быць прысьпешаны.

Каб быць прыйнятымі кандыдаты павінны ведаць асновы навукі Праваслаўнае Веры.

Дакладнейшыя інфармацыі ў гэтай справе можна атрымаць з Кансысторыі БАПЦ, або Рэдакцыі "Царкоўнага Пасланца": BAOC Consistory
P.O. Box 5982, Somerset, N.J. 08875-5982
Tel. 1 732 873 8026

## МІСЫЯНЭРСКАЯ НАРАДА

3-га жнівеня г.г. у Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне пад старшынствам Я.М. Мітрапаліта Ізяслава адбылося паседжаньне працяглае місыянэрскае нарады БАПЦ, у якім узяло ўдзел некалькі прыбылых з Бацькаўшчыны, дзейных у руху за ўзнаўленьне БАПЦ, дэлегатаў і мяйсцовы царкоўны актыў.

Удзельнікі паседжаньня, узважыўшы абрысованую прыбылымі палітычную й царкоўную сытуацыю ў межах роднага Краю, абмеркавалі далейшыя крокі скіраванае на ўзнаўленьне БАПЦ на Бацькаўшчыне дзейнасьці.

Падчас побыту прадстаўнікоў з Бацькаўшчыны ў ЗША адбудуцца зь імі яшчэ далейшыя, прысьвечаныя місыянэрскай дзейнасьці БАПЦ, гутаркі.

Кансысторыя БАПЦ горача дзякуе консульскім уладам ЗША у Менску за тое, што ўважылі просьбу Першагерарха БАПЦ і выдалі візы запрошаным на місыянэрскую нараду БАПЦ дэлегатам.

---

**ЗРАБІ ДОБРЫ ЎЧЫНАК НА СЁНЬНЯШНІ ДЗЕНЬ - ДАЙ АХВЯРУ НА "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА"**

# ГІСТОРЫЯ ЧУЖЫМІ ВАЧЫМА

**Шейкин Г. "Полоцкая епархия. Историко-статистическое обозрение".** Менск, 1996. Выданьне Беларускага Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў. Сьв.-Петрапаўлаўскі Сабор. 95 66. Накл. 2 000 ас.

Гэта першая кніга з задуманае сэрыі па гісторыі ўсіх беларускіх япархіяў, за падрыхтоўку й выданьне якое ўзялося Беларускае Праваслаўнае Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў, што дзейнічае ў Менску. Перш, як кніга выйшла, ейны тэкст ужо быў надрукаваны ў перакладзе на беларускую мову ў Беларускім Праваслаўным Каляндары на 1996 год. Аднак кніжка выйшла парасейску. Зазначым, што зь нядаўняга часу Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў выдае пераважна расейскамоўную літаратуру, наўсуперак шматлікіх заяваў у друку праз беларускі прыярытэт.

Старшыня Брацтва Сьв. Віленскіх Мучанікаў сп. М. Матрунчык назваў кнігу - сьветчаньнем якасна новага падыходу да гісторыі праваслаўя ў Беларусі. *Яна* (гісторыя - Рэд.) *дагэтуль пісалася тэндэнцыйна расійскімі і савецкімі гісторыкамі. Патрэбна новае асэнсаваньне з беларускага пункту гледжаньня"* ("Ніва", 22 вер. 1996, Беласток). Паводле інтэрв'ю, падрыхтоўкай да друку падобных выданьняў займаецца адумысловая лябараторыя царкоўнае гісторыі пры брацтве.

Фактура кнігі падпарадкаваная храналёгіі, якая мейсцамі дапаўняецца аўтарскімі ацэнкамі ды інтэрпрэтацыямі. Да тэксту падабраны добры візуальны матэрыял - малюнкі, гістарычныя мапы, фота, партрэты, - большасьць якога, аднак, прыпадае на пэрыяд новае й навейшае гісторыі. Этапы разьвіцьця Полацкае япархіі падаюцца ў кантэксьце агульнае й царкоўнае гісторыі Беларусі ды сумежных земляў.

У кнізе Г. Шэйкіна няма выразна радыкальных ацэнаў і высноваў што да хрысьціянскае гісторыі Беларусі. Задума аўтара сыстэматызаваць факты з жыцьця ды адлюстраваць ролю й значэньне Полаччыны ў духовым разьвіцьці Беларусі непазьбежна паставіла перад ім больш грунтоўнае заданьне інтэрпрэтацыі гістарычнае долі праваслаўя на беларускіх землях.

Аналізуючы кнігу, няцяжка зразумець, што праблемныя моманты й падзеі нашае царкоўнае гісторыі аўтар вырашае вылучна з пазыцыяў расейскае вялікадзяржаўнае царкоўнае гістарыяграфіі й адпаведнага грамадзянскага пафасу. Таму, прыведзеная вышэй прэтэнзыйная заява кіраўніка Брацтва Сьв. Віленскіх Мучанікаў М. Матрунчыка на гістарыяграфічную навацыю не адпавядае праўдзе. У працы Г. Шэйкіна няма ані новых фактаў, ані новых мэтадалягічных падыходаў, ані новае гістарыяграфічнае асновы.

У гэтай рэцэнзіі супынімся найперш на тых этапах і падзеях гісторыі, якія найбольш спрэчна й тэндэнцыйна характэрызуе аўтар, ды зь якіх вырастае безназоўны аргумэнт кнігі - адмаўленьне традыцыі й ідэі царкоўна-рэлігійнае самастойнасьці беларусаў.

. . .

Зыходзячы з аксыяматычнага сьцьверджаньня адзінства старажытнае Русі, аўтар пакідае па-за ўвагай дзяржаўныя й нацыянальна-палітычныя асьпірацыі беларусаў. Далей, паклікаючыся на прынцып саборнасьці праваслаўнае царквы, аўтар абсалютна ігнаруе пытаньне нацыянальнае формы праваслаўя й тым самым дэактуалізуе ці папросту замоўчвае найбагацейшы пласт матэрыялізаваных формаў беларускае духовасьці - гэткім спосабам у кнізе цалком праігнараванае пытаньне беларускае мовы ў царкве, традыцыя беларускага царкоўнага сьпеву, архітэктуры, выдавецкая спадчына, разьвіцьцё царкоўнае рэлігійнае думкі беларусаў.

Друкар Скарына, напрыклад, згадваецца з формай імя *Георгі* ды толькі ў дужках падаецца варыянт *Францыск* (б. 22). З кнігі не зразумець, на якую мову перакладаў Скарына, не адзначаецца ягоная піянэрская роля ў гісторыі найперш беларускага, а не якогасьці абстрактна-славянскага кнігадруку. Падобнае прыніжэньне або ігнараваньне чыну Ф. Скарыны, дарэчы, даўно прыжылося ў расейскай царкоўнай гістарыяграфіі, і неаднаразова выказвалася зусім нядаўна аўтарытэтнымі дзеячамі Беларускага Экзархату РПЦ.

Амаль ня ўжываецца ў кнізе этнонім "беларусы", якіх найчасьцей называюць тут "праваслаўным", ці "беларускім народам". Вялікае Княства Літоўскае й Рэч Паспалітая гэтаксама не трактуюцца як формы беларускае дзяржаўнасьці. У адрыве ад этна-культурнае, дзяржаўнае і цывілізацыйнае асновы згаданае "праваслаўнае насельніцтва" (г. зн. беларусы) выступае ўсяго толькі безаблічным і бязвольным аб'ектам суседзкіх дзяржаватворчых, нацыянальных і рэлігійных імкненьняў.

Заўважым, што некаторыя прадстаўнікі царскае расейскае гістарычнае школы ўсё ж прызнавалі багатую традыцыю царкоўна-рэлігійнага жыцьця беларусаў і ўкраінцаў у самабытных культурных і арганізацыйна самастойных формах, абагульняючы свае дасьледаваньні пад унівэрсальным назовам "гісторыя Заходня-рускае царквы". Тымчасам, Г. Шэйкін цалком ухіліўся ад апісаньня традыцыяў і гісторыі Беларуска-украінскае царквы, намагаючыся прадставіць яе гістарычна неадрыўнай і суладна-гарманічнай часткай маскоўскага праваслаўя. Апошняе, аднак, сталася агрэсарам і зьнішчальнікам, ды, не зьмяняючы свае сутнасьці дагэтуль, працягвае выконваць функцыі расейскага праваслаўнага імпэрыялізму ды ў форме Беларускага Экзархату РПЦ кантраляваць духовае жыцьцё нашае краіны.

Гістарычна, ад заснаваньня й на працягу стагодзьдзяў Беларуская царква знаходзілася ў кананічнай юрысдыкцыі Усяленскага Царгародзкага патрыярха, якая не перашкаджала разьвіваць свой собскі царкоўны строй, собскую сыстэму кіраваньня. Падобны тып царкоўнае залежнасьці ў сутнасьці значыў стан **фактычнае аўтакефаліі.** Улада Царгораду абмяжоўвалася актамі вышэйшага кананічнага парадку й духова-маральнай апекай. Канстантынопаль, у адрозьненьне ад Масквы, быў для Беларусі натуральным духовым і царкоўна-рэлігійным цэнтрам. Фактычна, працягам стагодзьдзяў Беларуска-украінская царква заставалася самаўпраўнай. Між іншым, праз гэта сьветчыць і вонкавая атрыбутыка ўзаемадачыненьняў: Царгародзкія патрыярхі пасылалі кіяўскім мітрапалітам граматы з алавянымі пячаткамі, як да аўтакефальных архіяпіскапаў Усходу, а не з васковымі, як да іншых падначаленых мітрапалітаў.

Кніга Г. Шэйкіна не раскрывае чытачам сэнс, практычнае й гістарычнае значэньне собскае праваслаўнае Мітраполіі ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай, наяўнасьць якое сьветчыла праз высокі ўзровень духовага разьвіцьця тагачаснага грамадзтва. Драматычная гісторыя ўсталяваньня й умацаваньня ў дзяржаве Літоўска-Навагрудзкае, а пазьней Кіяўскае Мітраполіі прымітыўна інтэрпрэтуецца ім як намаганьні сьвецкіх уладаў асягнуць пэўныя палітычныя мэты. Адпаведна, барацьба ды ўсталяваньне Мітраполіі засуджаюцца аўтарам як некананічныя.

Першае ўхваленьне Царгародзкага патрыярха на стварэньне асобнае Літоўскае мітраполіі было атрыманае, паводле кнігі, паміж 1316-1320 гг. на просьбу вялікага князя Віценя, аднак, праіснавала яна нядоўга. Навука пакуль ня мае вестак праз акалічнасьці ейнага стварэньня й прычыны хуткага зьнікненьня. На думку ведамага

украінскага эміграцыйнага гісторыка І. Власовськага, першая Літоўская мітраполія магла быць заснаваная вылучна для Літвы (Полацкая й Тураўская япархіі), але не для Украіны, ды таму была аб'яднаўчым асяродкам царкоўна-рэлігійнага жыцьця вылучна для беларускіх земляў. На той час Кіяўская мітраполія заставалася духовым цэнтрам ня толькі для беларускага й украінскага абшару ВКЛ, але й для Маскоўскага ды іншых расейскіх княстваў і земляў. Аднак, імпульсы палітычна-дзяржаўнае й духовае кансалідацыі відавочна праступалі па восях Полацак - Навагрудак - Вільня. Абгрунтоўваў патрэбу стварэньня собскае Літоўскае мітраполіі (бяз Кіява) і выступаў ідэалёгам рэлігійнае самастойнасьці ВКЛ перад Масквою ў ягоных лістох да Царгародзкага патрыярха Вялікі князь Альгерд (1345-77).

З утварэньнем першае Літоўскае (якая, аднак, не замацавалася ў доўгай гістарычнай рэтраспэктыве ды таму ейныя ролі й функцыі перайняла Кіяўская мітраполія), а пасьля Кіяўскае мітраполіі, паводле Г. Шэйкіна, "*пачынаецца працяглая спрэчка паміж Праваслаўнай царквою ў межах Вялікага Княства Літоўскага й Царквою, што заснавала свой цэнтр у Маскоўскім княстве. Гэтая спрэчка ў значнай ступені мела палітычную аснову. Кожная з частак адзінае па сутнасьці Царквы, апялюючы да аўтарытэту Канстантынопальскага патрыярха, намагалася пашырыць ейную юрысдыкцыю на ўсю тэрыторыю былое старажытнае Русі й тым самым успадкаваць пераемнасьць ад старажытнае Кіяўскае мітрапалічае Катэдры*" (б. 17). Тут аўтар нятолькі перабольшвае "адзінства сутнасьці" дзьвюх Цэркваў, але й спрошчана трактуе пачатак эпохі рэлігійна-палітычнага супорніцтва паміж ВКЛ і Масковіяй, завяршэньнем першага этапу якога можна лічыць 1458 год, калі адбыўся фармальны падзел Кіяўскае мітраполіі на Кіяўскую й Маскоўскую.

Найважнейшым тактычным заданьнем Маскоўскага княства было падпарадкаваньне духовага жыцьця Беларусі й Украіны дзеля паступовага ўжыцьцяўленьня палітычнае анэксыі. Нятолькі ўсьведамленьне агульна-нацыянальнага палітычнага й дзяржаўнага інтарэсу ВКЛ, але й асягненьне пэўнага этапу ў царкоўным будаўніцтве ды духовым разьвіцьці грамадзтва прадэманстраваў царкоўны Сабор, скліканы зь ініцыятывы Вялікага князя Вітаўта ў Навагрудку 14 лістапада 1415 году, што завяршыўся ўстанаўленьнем собскае Мітраполіі й абраньнем на пасад Грыгора Цамблака з тытулам Мітрапаліта Кіяўскага й усяе Русі. Г. Шэйкін назваў акт "*сур'ёзнай спробай адасобіць Праваслаўную Царкву ў межах свае дзяржавы*" (б. 17). Кніга характэрызуе акт як некананічны й прыпісвае яго вылучна палітычнай волі Вітаўта, што "*хацеў пры гэтым узьняцца вышэй канфэсыйных праблемаў дзеля асягненьня свае дзяржавы, будучыню якое бачыў у незалежнасьці як ад Масквы, гэтак і ад Польшчы*" (б. 18).

Прызначэньне запраўды адбылося наўсуперак волі Канстантынопалю й Масквы, пасьля неаднаразовых дарэмных спробаў царкоўных і сьвецкіх уладаў ВКЛ узгодніць падрыхтоўку акту з канстантынопальскімі герархамі, у спадзяваньні на прыхільнасьць якіх пастанова адкладалася на двох папярэдніх саборах, ды моцнага дыпляматычнага супрацьдзеяньня й інтрыгаў Масквы, што значна паўплывалі на паставу Канстантынопалю.

Аўтар стаіць на пазыцыях расейскіх гісторыкаў, што лічаць Сабор за вылучна прыватную ініцыятыву Вітаўта з адпаведна некананічным характарам пастановаў.

Тут, аднак, мы маем справу йзь сьведамай вульгарызацыяй кананічнага праваслаўнага права й антыгістарычным разуменьнем царкоўна-рэлігійнага працэсу. У царкоўнай гісторыі кожнага народу заўсёды было й ёсьць мейсца для рэлігійна-грамадзкіх ці палітычных актаў. Мала якія народы сьвету здабылі царкоўную самастойнасьць без барацьбы за яе ў той ці іншай канкрэтна-гістарычнай сытуацыі, асабліва ва ўмовах, калі большасьць акупацыйных рэжымаў практыкуе выкарыстоўваньне рэлігіі ў сваіх мэтах ды праявы духовага супраціву, ці вызваленьня, засуджае як палітыканства й зьвінавачвае іх у некананічнасьці.

У кнізе не сказана, што Сабор 1416-га году быў першым саборным голасам нашае Царквы ў справе собскае Мітраполіі, ідэя якое атрымала поўнае й вычарпальнае абгрунтаваньне. Значнасьць і важнасьць Сабору ў нашай царкоўнай гісторыі палягае на тым, што, выходзячы з канонаў праваслаўя й дазнаньня іншых цэркваў, на ім былі сфармуляваныя ПРАЎНЫЯ АСНОВЫ АЎТАКЕФАЛІІ:

"*Яко иже прежде нас крешеніі Болгаре и нам сродницы створиша своими епископы поставльша собе прьвесвятителя. Такоже и Сербского языка епископи рассудише, яко по правилом есть и по апостольскому уставу створиша собе епископи прьвосветителя даже до днесь есть, поспешьствующу Богу, прьвосвятитель в Срьбской земли, имея многи епископы под собою. Таже не толика есть Срьбская земля, елика есть Русская... И что глаголем о Болгарех, или о Сербех? От святых апостол тако усталено бысть. Равно на всех епископех православных благодать действует святаго Духа: ибо Апостоли от Господа поставлени быша, они же иных поставиша, и паки они других и тако благодать святаго Духа даже и до нас смиренных дойде; и имамы власть яко апостольстіи ученицы многими испытаньми и в прошаньи и сходитися и поставляти своему отечеству пастыря достойна...*".

Пытаньні праз адпаведнасьць канонам праваслаўя кожны раз ставяцца аўтарам кнігі перад актамі беларуска-ўкраінскае Царквы, што былі скіраваныя на асягненьне самастойнасьці перад Маскоўскаю царквою, і аніводнага (!) падобнага папроку ня знойдзем у адрас апошняй, хоць ейная гісторыя перасычаная грубымі антыкананічнымі ўчынкамі й дзеямі. У 1458-м годзе Сабор маскоўскіх япіскапаў без пагадненьня з Царгорадам абраў Мітрапалітам Разанскага япіскапа Іону, даўшы яму тытул Мітрапаліта Кіяўскага ды ўсяе Русі. Наступныя мітрапаліты насілі ўжо тытул "Маскоўскіх ды ўсяе Руси". Г. Шэйкін памылкова прыпісвае гэты тытул ужо мітрапаліту Іону. Маскоўская царква пайшла на канфлікт з Царгорадам і абвясьціла сябе фактычнай аўтакефаліяй. Г. Шэйкін і тут не зьвяртае ўвагі на той факт, што да 1589-га году Маскоўская царква ня вызнавалася Царгародзкім патрыярхам за кананічную. Толькі пасьля 140 гадоў фактычная аўтакефалія Маскоўскае царквы атрымала фармальна-кананічнае зацьверджаньне. Тымчасам Беларуска-Украінская царква заставалася ў кананічнай юрысдыкцыі Царгародзкіх патрыярхаў.

Пасьля фармальнага разьмежаваньня ў 1458-м годзе абедзьве царквы зажылі сваім апрычоным, собскім жыцьцём. Гэтак працягвалася два йз чвэрцяй стагодзьдзі, да 1686-га году, калі паводле ўмоваў Андрусаўскага міру паміж Рэчай Паспалітай і Расеяй Кіяўская мітраполія была падпарадкаваная Маскоўскаму патрыярхату. Аднак, Беларуская япархія з цэнтрам у Магілёве хоць і падпарадкавалася Маскве, але доўгі час карысталася вонкавай аўтаноміяй ды жыла, у адрозьненьне ад Маскоўскае, паводле прынцыпу сабornасьці. Наўрад ці зайснавалы стан рэчаў адпавядаў пачуцьцям і жаданьням беларускіх сьвятароў і вернікаў. Іхную прагу волі й патрыятызм прадэманстравала гістарычная Пінская кан-

## ГІСТОРЫЯ ЧУЖЫМІ ВАЧЫМА

(ПРАЦЯГ З 5-е БАЧ.)

грэгацыя 1791-га году, пастановы якое былі першымі фармальнымі крокамі на шляху да аўтакефаліі. (Гл. артыкул Я. Сланімчаніна "Да 255-х угодкаў Пінскае Кангрэгацыі" ў "ЦП", нр. 2-3 за лета-восень 1996). Рэалізаваць ейныя пастановы перашкодзілі падзелы Рэчы Паспалітае ў 1793-м і ў 1795-м гадох, пасьля якіх наступіла поўная інкарпарацыя беларускага праваслаўя ў склад царкоўна-рэлігійнае арганізацыі заваёўнікаў. Нашая ста-ражытная царква, такім чынам, падобна як і самая дзяржава, сталася ахвярай маскоўскае інтэрвэнцыі й экспансыі.

У палітыцы Масквы, скіраванай на зьнішчэньне дзяржаўнае незалежнасьці ВКЛ і Рэчы Паспалітае, задоўга да перамогі была абгрунтаваная ідэялёгія й практыка выкарыстаньня ў сваіх мэтах "рэлігійнае карты", што выяўлялася ва ўмяшаньні ў нутраныя справы іншае дзяржавы быццам з мэтай абароны аднаверцаў, г.зн. праваслаўнага насельніцтва. У кнізе даволі поўна прааналізаваныя прычыны пагаршэньня праўнага й фактычнага становішча праваслаўнае царквы ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай пры адначасным узмацненьні каталіцкага касьцёла. Аўтар асьвятліў практыку "патранізму", г.зн. умяшаньня дзяржаўных і палітычных уладаў у духовае й арганізацыйнае жыцьцё Царквы, што спараджала глыбокі нутраны крызіс ды зьнясільвала яе перад вонкавым каталіцкім наступам. Аднак, аўтар наўмысна, на нашую думку, абмяжаваў практыку патранізму межамі ВКЛ і Рэчы Паспалітай, процістаўляючы гэтай практыцы быццам справядлівае імкненьне Расеі абараніць праваслаўную веру ў Беларусі й Украіне, што раўназначна выпраўданьню агрэсіі й прэтэнзыяў Масквы на духовае кіраўніцтва ў беларускіх землях. У царкоўна-рэлігійнай гісторыі тае эпохі бадай што ня знойдзецца прыкладаў, калі б ва ўзаемадачыненьнях тае ці іншае дзяржавы й царквы не знайшлося разьвітае сыстэмы або элемэнтаў патранізму.

Выразная тэндэнцыйнасьць аўтара выяўляецца ў ацэнах фактаў мінуўшчыны. Апісваючы захоп Полацка ў 1563-м годзе войскамі расейскага цара Івана Жахнога, згадваецца, што палоненага полацкага архіяпіскапа Арсеня Шышку й ваяводу Дэвойну "з мноствам шляхты" цар "*адправіў у Маскву*", не ўдакладняючы, што маецца на ўвазе пад "адпраўкай" (б. 24). Полацкая япархія адразу была падпарадкаваная Маскоўскай царкве. Толькі вобміргам аўтар гаворыць праз прызначэньні Кіяўскай мітраполіяй архіяпіскапаў на полацкую катэдру й пасьля арышту Архіяпіскапа Арсеня. У якасьці пераемнікаў полацкае катэдры называюцца толькі прызначыныя Масквою архіяпіскапы. Пытаньне парушэньня кананічнага права Кіяўскае мітраполіі ў выніку агрэсіі й узноў зацямняецца й не фармулюецца.

У 1579-м годзе пры вызваленьні гораду войскамі Сьцяпана Баторага быў арыштаваны маскоўскі стаўлянік на полацкую катэдру архіяпіскап Кіпрыян, да якога, як цяпер ужо адкрыта гаворыць аўтар, ужылі сілу, "*закавалі ў жалеза й адправілі ў вязьніцу*". Праз разбурэньне гораду Іванам Жахным не гаворыцца ані слова, затое з прычыны захопу войскамі Баторага бібліятэкі Сафійскага сабору, ліюцца ўжо "кракадзілавыя сьлёзы" праз парушэньне "*векавых правоў Полацкіх архіяпіскапаў на цэрквы й валоданьні*", уціск "*інтарэсаў переважнае бальшыні жыхароў Полацкае зямлі*" (б. 26).

У кнізе разглядаюцца перадумовы ды наступствы царкоўнае вуніі, якую аўтар справядліва лічыць формай польскае палітычнае й рыма-каталіцкае духовае экспансыі, ды прыводзіць адпаведныя факты абумоўленых ёю грамадзкіх, сацыяльных і рэлігійных катаклізмаў. Нажаль у кнізе не гаворыцца праз цікавы пэрыяд актывізацыі Праваслаўнае царквы ў абароне свайго права на йснаваньне ў першай палове 17-га стагодзьдзя, інтэнсыўнае разьвіцьцё беларуска-украінскае праваслаўнае думкі, асабліва за часам Мітрапаліта Пётры Магілы. Цікава гэтаксама было б паказаць разьвіцьцё вунійнае праграмы ў кантэксьце контррэфармацыі.

Разьдзел кнігі "Пад вуніяй" багаты на цікавыя факты з рэлігійнага жыцьця Полаччыны й наагул Беларусі пэрыяду 16-га - першае трэці 19-га стагодзьдзяў. Анэксыя Беларусі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітае ды ліквідацыя аўтаноміі Беларускае япархіі ня выклікала хоць бы якіх аўтарскіх рэфлексыяў.

Найтрагічным вынікам вуніі мы схільныя лічыць не канкрэтныя, ведамыя зь гісторыі міжканфэсыйныя канфлікты, але разбурэньне зь ейнай дапамогай спрадвечнае цывілізацыйнае асновы беларускага народу, на якой пачалося фармаваньне й самарэалізацыя беларускае нацыі, г.зн. нацыянальнага паводле формы праваслаўя, якое задавала натуральны прасьцяг разьвіцьця, зыход зь якога пераўтварыў Беларусь у арэну нутраное вайны, што высмактала фізычную й духовую сілу народу.

Прадстаўленьне аўтарам ліквідацыі вуніі як мірнага працэсу пры ўхвале духавенства й вернікаў значна супярэчыць гістарычнай праўдзе, бо ўжыцьцяўлялася яна сілай дзяржавы пры спрыяньні пэўнае часткі вуніяцкага духавенства, і мела на мэце духовае паняволеньне ды нацыянальна-культурную ўніфікацыю беларусаў з Расеяй. Супраць ліквідацыі выступіла найбольш артадаксальная й найбольш спалянізаваная частка вуніятаў, што была, аднак, незначная. Як прыклад глыбейшае распрацоўкі гістарычнае праблемы вуніі ў рэгіёне, паставім у прыклад артыкул В. Грыгор'явай, У. Навіцкага й А. Філатавай "Уніяцтва на Беларусі ад Полацкага сабора 1839 г. і да нашых дзён" (Беларускі гістарычны часопіс, № 2, 1996). Ліквідацыя вуніі была амаль бяскроўным, але ўсё ж тым самым гвалтам, як у свой час ейнае пашырэньне ды актыўнае выкарыстаньне ў пагвалчаньні беларускага праваслаўя. Пазыцыя аўтара што да ліквідацыі настолькі ж супярэчыць гістарычнай праўдзе, наколькі супярэчаць ёй і апалагетычныя спробы многіх гісторыкаў прадставіць вунію нацыянальнай царквою нашага народу.

Вуніяцкая царква запраўды была кансэрвантам некаторых беларускіх нацыянальных элемэнтаў культуры, але праз увесь час не сфармулявала собскае нацыянальнае ідэалёгіі. У ейнай ацэне мы згаджаемся зь некаторымі дасьледчыкамі, напрыклад В. Ластоўскім, якія вызначалі ейную ідэю як "мужыцкую" ці "тутэйшую", што мела шанцы, але ня сталася нацыянальнай царквою, ды, ускладалі на вуніяцтва гістарычную віну за нутраны крызіс й наступны распад нашае старажытнае дзяржавы. "*Унія давяла да разьбіцьця Літоўскую дзяржаву і, коштам яе, да разросту Маскоўскага царства ў Расійскую імпэрыю*". - пісаў Вацлаў Ластоўскі ў ягоным нарысе "Унія", - "*Трагедыя, званая уніяцтвам, якую народ наш пережыў у гістарычнай мінуўшчыне, даводзіць, што "промежутки и недоимки" мала маюць шансаў на тое, каб заваяваць сабе мейсца на існаваньне*". (Газ. "Культура", 2 ліп. 1996).

У разьдзеле, што ахоплівае пэрыяд 19-га - пачатак 20-га стагодзьдзя, прадстаўляецца ўжо гісторыя замацаваньня Расейскае царквы, што суправаджалася выкараненьнем беларускіх традыцыйных элемэнтаў праваслаўя й царкоўным прыслужніцтвам дзяржаўнай палітыцы дэнацыяналізацыі Беларусі, але ўсё гэта застаецца па-за ўвагай аўтара. З разьдзелу зазначым толькі

багатую факталёгію, а менавіта апісаньне падрыхтоўкі й пераносу ў Полацак мошчаў Сьвятое Еўфрасіньні (бб. 64-67), дзейнасьць на Полаччыне й Віцебшчыне япіскапа Дзьвінскага Панцялеймана (бб. 68-71) ды інш.

Разьдзел "Апошнія дзесяцігодзьдзі" ахоплівае пэрыяд гісторыі з 1921-га году да нашых дзён. Гістарычны матэрыял прадстаўлены ў ім як мартыралёг. У адлюстраваньні сучаснага жыцьця пераважаюць фота-матарыялы.

У гэтай частцы кнігі замоўчваюцца драматычныя старонкі адраджэньня ідэі й спробаў ўзнаўленьня аўтакефаліі Беларускае царквы ў пераломных момантах гісторыі, а менавіта ў 20-х гадох ды ў часе вайны.

Дарэчы, у разьдзеле падаецца фота й паслужны сьпіс архіяпіскапа Панцялеймана (Ражноўскага), якому воляй лёсу выпала фармальна ачольваць Беларускую царкву падчас апошняе вайны ды накоратка пасьля ейнага канца, хоць ідэя беларускае нацыянальнае ці царкоўнае самастойнасьці заўсёды была яму чужая й варожая. Таму ўрэшце ён, будучы расейцам з паходжаньня й расейскім патрыётам, здрадзіў БПАЦ ды перайшоў у юрысдыкцыю расейскае зарубежнае царквы.

. . .

"*Стратэгічна Беларусь ускраіна "эўрапэйскага" праваслаўя... За Беларусьсю пачынаецца іншае праваслаўе*" - цалком слушна заявіў у згаданым інтэрв'ю М. Матрунчык. Аднак, ухваленая ім кніга не адлюстроўвае аніякае "іншасьці". Не знаходзім мы ў ёй аніякага новага, г.зн. свома беларускага погляду на царкоўную гісторыю.

З усяго гэтага відаць, што праект гісторыі беларускіх япархіяў ня можа быць рэалізаваны зь беларускага пункту гледжаньня, бо ўжыцьцяўляецца ён у рамках РПЦ (дарма што Беларускага паводле назову Экзархату), аднолькава чужой і няпрыхільнай і да беларускага, і да эўрапэйскага.

Гэтую рэцэнзыю хацелася б скончыць урыўкам з цытаванага намі нарысу В. Ластоўскага, у якім даецца ключ да развязаньня беларускае нацыянальна-рэлігійнае праблемы: *Калі ня хочам, каб чужынцы камандавалі духовасьцю нашага народу, павінны мы шукаць і знайсьці спосабы і формы да самаістага разьвязаньня рэлігійнага пытаньня. Патрэбна ўтварэньне такой формы хрысьціянскай царкоўнай арганізацыі, якая бы, не аглядаючыся ні на ўсход, ні на захад стаяла на груньце нашых нацыянальных інтарэсаў*".

Віктар Бражэвіч

~ *** ~

## ПСАЛЬМ 54

(ПЕРАКАЗ Б.Д.)

Паслухай, Божа, голас мой
І не прамоўч, калі ўпрашаю;
Пачуй мяне ды ўваж прасьбу,
Трываць бо змогі больш ня маю.

Варожы крэч наводіць жах,
Звакол ліхія брыдка лаюць,
Бяз права крыўды чыняць мне
І люта ўскрозь мяне змагаюць.

Калоціць сэрца у грудзёх
І страх сьмяротны агартае,
Дрыжаньня немач устрымаць,
Як роспач скрозь мяне праймае.

Каб галубовых крылаў ўзяць -
Палецець імі ў далячыню,
Ня чуўшы злосных словаў там
Спачыў-бы ў зацішку пустыні.

Я ад віхроў і навальніц
Утаіўся-б гэнам у прыпыне
І ад паклёпаў дармавых
Ня бедаваў-бы, што загіну.

А гэтта бачу гвалт вакол,
Нязгода места разрывае -
Яны начамі й завідна
Ля сьценаў меставых ступаюць.

Каб гэта вораг заступіў,
Дык зьдзек ягоны я стрываю,
Ці ненавісьнік пагражаў -
Я ад яго схаванак маю.

Але ня ты, што быў блізкі,
Удвайгу бо змалку сябравалі,
У пабожных справах і людзкіх
Заўсёды ўпоруч мы стаялі.

Няхай на гэткіх звод найдзе,
Зыйдуць ў магілы хай жывыя,
Бо ў іхных сэрцах ненавісьць,
А ў хатах дзеі ўсе ліхія.

Я-ж Бога буду ўсьцяж гукаць
І Гаспадар мяне ўратуе,
Дзень цэлы буду галасіць
І плач мой горкі ён пачуе.

Маёй душы збаўленьне дасьць,
Усьцеражэ ў ціхой заслоне
Ад тых, што ўсталі процьмяне
Ды йдуць загубнаю пагоняй.

Прадвечны ўчуе Бог мяне
Ды ім паразу ўрэшт згатуе,
Бо не зракліся спраў благіх
Ды страху Божага ня чуюць.

Уздымалі рукі задарма
На тых, што шчыра ім прыялі
І тым, хто зладна зь імі жыў
Прыроку згоды ня стрымалі.

Гладчэй за масла вусны ў іх,
А ў сэрцах ненавідзь бяз краю,
Мяккія словы бы алей,
А менш за меч спагаду маюць.

Зьвярні да Бога ты жальбу -
Ён цяж нясьці цябе ўмацуе,
Ня дасьць у крыўду Гаспадар
І ад загубы паратуе.

А кроў нявінных што лілі
Ды зраду ўскрозь сваю снавалі,
Тым у вадплату Бог ня дасьць,
Каб позных летаў дачакалі.

Дык на Яго спадзеў я маю!

ПАЧАТАК СЬВ. ЛІТУРГІІ Ў КАТЭДРАЛЬНЫМ САБОРЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА КОЖНАЕ НЯДЗЕЛІ А 9-й Г. РАНА. СЬВЯТЫ Ў ТЫДНІ, КАЛІ НЕ ЗАКАЗАНА ЙНАКШ, УШАНОЎВАЮЦЦА Ў НАЙБЛІЖЭЙШЫЯ НЯДЗЕЛІ. ПЕРАД ПАЧАТКАМ СЬВ. ЛІТУРГІІ МОЖНА ЙСЬЦІ ДА СПОВЕДЗІ, АБО ПАДАВАЦЬ УСПОМНЫЯ СЬПІСКІ ЗА СУПАКОЙ ПАМЕРЛЫХ, ЦІ ЗА ЗДАРОЎЕ ЖЫВЫХ.
АДРЫС: 401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217-1702.
TEL. (718) 875-0595, (732) 873-8026.
ДАЕЗД ПАДЗЕМКАЙ: ЛІНІІ "A", "C", "G" ДА "HOYT-SCHERMERHORN ST"., АБО "2", "3", "4", "5" ДА "NEVINS ST.".

# СЛУЖБОЎНІК

(ЗАКАНЧЭНЬНЕ З №№ 2 - 1995, 1, 2-3, 4 - 1996, 1 -1997)

Апошнім разам наш агляд выдадзенага ў 1994-м годзе ў Таронта пад фірмай БАПЦ, але без дазволу на гэта, "Службоўніка" дайшоў да заканчэньня сьпевам "Табе пяём..." эўхарыстычнага канону, або асьвячэньня дароў.

Усьлед за гэтым сьпевам ідуць ціха чытаныя сьвятаром малітвы, апошняя зь якіх кончыцца ў ц.-славянскай мове вымаўленьнем уголас "изрядно о Пресвятей, Пречистей, Преблагословенней, Славней Владычице нашей Богородице и Приснодеве Марии".

У "Службоўніку" гэты выгалас перакладзены "асабліва за найсьвяцейшую, найчысьцейшую, найбольш дабраславёную Уладарку нашу Багародзіцу і ўвесь час Дзеву Марыю".

Перш за ўсё, нам здаецца, што можна было-б зьменшыць даўжыню й палегчыць вымаўленьне гэтага выгаласу, заступіўшы расьцяглыя формы прыметнікаў "найсьвяцейшая, найчысьцейшая" карацейшымі "найсьвятая, найчыстая", што апошнім часам усё больш і больш здабываюць сабе мейсца ў нашай мове.

Раней ужо было сказана, што зусім няма патрэбы калечыць нашую мову нялюбым ёй няўклюдным зьлепам "дабраславёная" й пад., калі яна мае цалком дастатковы адпаведнік "хвалаваная".

У дадзеным выпадку слова "найхвалаваную" лепш, можа, было-б зьмяніць на "звышхвалаваную".

Бясконцы ўжо раз даводзіцца зварочваць увагу, што ў беларускай мове займеньнікі, звычайна, стаяць перад назоўнікамі, дык і гэтта ён павінен быў-бы быць уперадзе слова "Уладарка", ды не з адсечаным паводле наркомаўскае паліт-граматыкі канцом, а згодна з вымогамі самое мовы ў поўнай форме "нашая", або, дакладней кажучы, "нашую Уладарку".

Далей ідзе слова "Багародзіца", што, як і іншыя двохкарэнныя назоўнікі, нясвомае нашай мове.

Але гэта не адзіная зь ім няручнасьць - яно яшчэ й дублюе ды раздвойвае, а гэтым і блытае азначэньне "Божая Маці".

З гэтай праблемай змагаліся й перакладнікі праваслаўных адправаў на ангельскую мову ды, з дазволу царкоўных уладаў, разьвязалі яе ўсюды заступіўшы тэрмін "Theotokos (= Багародзіца)" словамі "Божая Маці", як гэта відаць з выданьняў юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату, ды нават Расейскае зарубежнае царквы.

Урэшце, узноў нельга прамоўчаць, што назоў "дзева" мае адцень груваcткасьці ды падстаркаватасьці й на ягоным мейсцы знойдзенае Л. Геніюш, а таксама й аўтарам гэтага агляду, слова "дзеўна" гучыць маладжава, далікатна й пашанотна.

Зважыўшы ў вадно вышэй зробленыя заўвагі, тэкст разгляданага выгаласу павінен быў-бы гучэць: "*асабліва за Найсьвятую, Найчыстую, Звышхвалаваную, нашую Слаўную Уладарку, Божую Маці й усьцяж (вечна) Дзеўну Марыю*".

Усьлед за гэтым выгаласам сьпяваецца хвальная песьня Божай Маці, тэкст якое ў ц.-славянскай мове наступны: "Достойно есть, яко во истину блажити Тя Богородицу, присноблаженную, и пренепорочную, и Матерь Бога нашего. Честнейшую Херувим, и славнейшую без сравнения Серафим, без истленія Бога Слова рождшую, сущую Богородицу Тя величаем".

Перакладнік "Службоўніка" перакаэвае гэта наступнымі словамі: "Дастойна і справядліва ёсьць славіць Цябе, Багародзіцу, заўсёды шчасьлівую і найчысьцейшую і Маці Бога нашага, пачасьнейшую за херувімаў і без параўнаньня слаўнейшую за сэрафімаў, што радзіла Бога Слова непарушнаю, праўдзівую Багародзіцу Цябе праслаўляем".

У гэтых двох, зьлепленых у вадзін, сказах, найвыразьней мо як дзе-інш выяўляецца непадрыхтаванасьць перакладніка да справы, за якую ён узяўся.

Нятолькі бо ён чамусьці губляе "во истину", нямаведама чаму паўтарае ц.-сл. "достойно", дзе панашаму трэба сказаць "годна", устаўляе ад сябе "справядліва" ды перакладае "блажити" як "славіць", замест "чэсьціць", але і зусім не разумеючы слова "присноблаженную" абяртае яго ў "заўсёды шчасьлівую", хоць яно значыць "усьцяж хвалаваную".

Не дадаюць славы перакладніку й няўдала ўжытыя азначэньні "пачасьнейшую, непарушнаю, праслаўляем".

Каб не займаць часу далейшым аналізам, ніжэй падаем тэкст перакладу, як ён, прыймаючы вышэй зробленыя заўвагі да ўступнага выгаласу, павінен, на нашую думку, гучэць: "*Па праўдзе нам годна чэсьціць Цябе, усьцяж хвалаваную й найчыстую Дзеўну, што Маці нашага Бога. За хэрубімаў у чэсьці вышэй і без раўні за сэрафімаў слаўней, што нязблажна Бога Слова нарадзіла, Цябе па праўдзе Божую Маці мы ўзвышаем*".

У заздароўным усьлед выгаласе перакладнік таксама не разумее, што ў "их же даруй святым Твоим церквам в мире, целых, честных, здравых, долгоденствуюших, правоправяших слово Твоея истины" йдзе гутарка не праз тое, каб Бог падарыў Ягоным цэрквам здаровых і г.д. успамінаных япіскапаў, а каб ушчадрыў гэных япіскапаў спраўнасьцяй на кіраваньне Ягонымі цэрквамі.

Тут варта й дадаць, што "ісьціна", якою перакладнік закончыў выгалас, пабеларуску называецца "праўдай".

Адказ хору на вышэй пададзены выгалас у "Службоўніку" перакладзены словамі "усіх і ўсё", хоць гэтта маецца наўвеце "*усіх* (мужчынаў) *і ўсе* (жанчыны)".

Няма мейсца, каб абмяркоўваць усе недакладнасьці й недарэчнасьці, што перакладнік дапусьціў у далейшых выгаласах і наступным упрашаньні (екцяньні).

Даводзіцца, аднак, яшчэ раз зацеміць, што "Ратаўнік, ратаваць" на мейсцы "Збавец. збаўляць" гучыць неправажліва, а "анёл" непатрэбны палянізм, што цяпер дзе ў каго з нас у фасоне замест сугучнага з нашай мовай "ангял", баяцца якога няма прычыны.

Урэшт і ўзноў ва ўпрашаньні ўжываецца абвесны лад "памолімся". замест, як трэба было-б, "памалемся", або яшчэ лепш "упрашайма".

Упрашаньне кончыцца выгаласам, што ў ц.-славянскай мове гучыць: "и сподоби нас, Владыко, со дерзновеніем, неосужденно смети призывати Тебе, небеснаго Бога Отца, и глаголати".

Перакладнік перакаэвае гэта словамі "і дазволь нам, Уладару, адважна й без асуджэньня асьмеліцца зьвярнуцца да Цябе, нябеснага Бога Айца, і прамаўляць", дзе "дазволь" не адпавядае "сподоби", "адважна...асьмеліцца" выклікае пытаньне, ці можна "боязна асьмеліцца" ды "без асуджэньня" не аддае сэнсу "неосужденно".

Без далейшага растрасаньня адхіленьняў перакладу ад думкі арыгіналу скажам, што на наш пагляд, гэты сказ дакладней быў-бы вылажаны гэтак: "*ды ўгодні нас (дай нам годнасьць, зрабі нас годнымі), Уладару, без зганы важыцца клікаць Цябе, Бога Айца, што на небе, ды маўляць (-ці)*".

І гэтта маленьніка, ці чытача чакае шок, ад якога ў спадзеве, што здарылася друкарская памылка, мы прабавалі ратавацца заглядаючы ў паўторнае дзьвюмоўнае выданьне "Службоўніка" 1995-га году ў тым-жа Таронта, каб, нажаль, пераканацца, што ня выпадак стаўся, а ў найгоршым на гэта мейсцы, бо ў Гаспадарняй (Госпадавай) малітве, выявілася поўная некампэтэнт-

насьць перакладніка.

У абодвых бо выданьнях кажацца “хай **сьвЕціцца** (падкр. Б.Д.) імя Тваё...”, што гучыць не як пераклад. а, хутчэй, як спудлаваная спроба жарту.

Пакольні-ж і далей у перакладзе нямала іншых няўдаласьцяў, падаем яго цалком: “Ойча наш нябесны! Хай сьвеціцца імя Тваё, хай прыйдзе валадарства Тваё ды будзе воля Твая як на небе, так і на зямлі. Хлеба нашага штадзённага дай нам сёньня і выбач нам правіны нашы, як і мы выбачаем вінаватым перад намі, і ня дай нас у спакусу, але ратуй нас ад ліхога”.

Разглядаць тут рад выяваў неразуменьня перакладанага тэксту й няведаньня беларускае мовы ды выніклых з гэтага недарэчнасьцяў у перакладзе гэтае найпрыгажэйшае й натхняльнае малітвы проста няма сілы, а можа й патрэбы ды карысьці.

Замест таго ніжэй друкуем ейны тэкст так, як нам здаецца трэба яго пераладжыць: “*Войча наш, Той, што на небе Ты бытны* (або “*Той, што на небе ёсьць*”), *будзь Тваё ўсьвячанае імя, Тваё гаспадарства прыйдзі, будзь Твая воля, як на небе, гэтак і на зямлі. Нашага пражытнага хлеба сёньня нам дай ды нам нашыя віны даруй, гэтак, як і мы дароўваем тым, што вінныя нам, ды ў спакушэньне нас не ўвядзі, але ад ліхога нас збаў*”.

Усьлед, аж да недалёкага ўжо заканчэньня Сьв. Літургіі ў перакладзе паўтараюцца ўжо раней адцемленыя ў нашым аглядзе заганы, якія маркотна было-б узноў выкладаць.

Нажаль і ўвесь агляд тэхнічна добра выкананага ды за высокую цану выйшлага выданьня нельга зачыніць інакш, як шкадаваньнем, што зьмешчаны ў ім пераклад, ня гледзячы на амбіцыі й прэтэнзыі аўтара, нічога іншага як зман спадзяваньняў вернікаў ды дарэмная страта, так патрэбных на больш дбайна зробленыя справы, грошай.

### КАНЦАВЫЯ ЗАЎВАГІ

З агульна ведамых гістарычных прычынаў да нашага часу ня было перакладаў адправаў Праваслаўнае Царквы на беларускую мову.

Даводзіцца, нажаль, сказаць, што няма іх і цяпер, бо ня ўсё пісанае беларускімі літарамі й словамі, абавязкава напісанае беларускай мовай.

А гэта таму, што мова не скалот абы-як назьбіраных словаў, а паводле разумнага пляну пабудованы выяў людзкое думкі й, калі ў гэнай пабудове цагліны - словы пакладзеныя ня там ды ня так, як трэба, яна косіцца й стае нягоднай да карыстаньня.

Для прыкладу возьмем нізку беларускіх словаў і паставім іх абы-як адно за адным, вось, хоць-бы так: “добра бацька пасьнедаўшы наш да стайні праз прыгмень шырокі з хаты пайшоў, запрагчы каня гнядога каб у воз ды ў млын ехаць”.

Здаецца й словы беларускія ды праз што йдзе таксама зразумець можна, а, вось, вуха рэжа, бо ўроджаны беларус гэтак ніколі сказу не пабудуе.

І хоць гэтай праўдзе не запярэчыш, якраз пабожныя тэксты, дзе патрабуецца павага й урачыстасьць, на гэткую трасянку, не адным, зрэштай, складальнікам “Службоўніка”, але й іншымі, перакладаюцца.

Да гэтага яшчэ й тыя ўжо неўпацэл паперастаўляныя словы падаюцца з абсечанымі, ці зьвіначанымі на маскоўскі лад канчаткамі, як “наша”, замест “нашая”, “чыстай”, дзе слух просіць “чыстае” й пад.

Наўзьверх усяго пабожныя тэксты, што ў іх на ц.-славянскай ды іншых мовах чутная малітоўнасьць і ўрачыстасьць, у нашых дасюлешніх перакладах гучаць падобна да бээсэсэраўскага газэтнага жаргону.

Сакрэт тут нятолькі ў чысьціні мовы, але й у ейнай да пэўнае ступені архаічнасьці.

## ДЗЯКУЙМА БОГУ

Мы Богу дзякуйма бяз краю,
Праз нас няспынна што Ён дбае,
Хоць мы ці раз ды блізу што дня
Зь Ім абыходзімся нягодна.

А што было-б тады на сьвеце,
Каб “годзе” мовіў Ён, ўявеце,
Й да дачыненьня зь Ім паправы
Адклаў свае ўсе чыста справы?...

Цяпло каб з сонейка прапала
Й сьвятла ад месячка ня стала,
Каб мора й рэкі ўскрозь спусьцелі
Й паветра дыхаць мы ня мелі.

І ня было-б у гэтым дзіва,
А выйшла-б дужа справядліва,
Бо за дабро ўсё чалавеку
Бог дазнае бязь меры зьдзеку.

З нас крыўду толькі хто адчуе,
Што робіць бразьне й маракуе,
А Бог за блага выбачае -
Ніколі страйку ня ўчыняе.

Паводле “If God should go on strike”
by Walt Huntley пераказ Б.Д.

~ *** ~

Асягнуць гэтае ўражаньне архаічнасьці праз узнаўленьне ўжытку нашае старое мовы сёньня ня зусім магчымае й таму застаецца адзіны на гэта спосаб, а гэта скарыстаньне бязьмежнага багацьця словаў і граматычных формаў народных гутарак.

Нажаль, ня гледзячы на немалую колькасьць даступных дыялектычных слоўнікаў, нашыя перакладнікі надта над гэтым ня шчыруюць.

Аднак функцыя мовы ў людзкім жыцьці нятолькі песьціць вушы гучаньнем, але ў першую чаргу быць пасяродкам паразуменьня, а гэта значыць якнайдакладней пераказваць думкі, жаданьні й намеры размоўцаў.

Як не шкада, але ў нашых перакладах пабожных тэкстаў раз за разам няма зразуменьня сэнсу арыгіналу, хоць, каб не самаўпэўненасьць, ці не лянота перакладнікаў, тлумачэньне гэтага сэнсу можна было-б лёгка знайсьці ў шматлікіх і шырака даступных іншамоўных крыніцах.

Усё-ж, ня гледзячы на ўсю моўную неахайнасьць і партацтва, аўтары гэткіх дзіватвораў карыстаюцца ў нас аўрай сьвятасьці, найбольш з таго, што іхных опусаў, ніхто з тых, хто мог-бы заўважыць агрэхі, ня чытае, ані камэнтуе, дапушчаючы гэтым да ўражаньня сярод непадрыхтаваных, а паверлівых ура-патрыётаў, што ўсё зроблена, як мае быць.

А, ці-ж можна ўявіць, каб гэткае здарылася ў якой іншай мове - дык гэнам пісараў, што ламаюць мову, нятолькі ня друкавалі-б, але зь імі нат і не гаварылі-б.

У нас-жа адзін перакладнік і ён-жа выдавец “Службоўніка” ды яшчэ колькі роўнае якасьці публікацыяў, паводле атрыманае намі інфармацыі, страціў астранамічную на нашыя магчымасьці суму прыблізна 100 000 даляраў, за якую мы, можам сьмела сказаць, больш рацыянальна ўплянаваўшы й належна апрацаваўшы, выдалі-б цэлую бібліятэчку неабходна патрэбных кожнаму праваслаўнаму беларусу твораў.

Бяда толькі, што не належым да ўладнага сёньня на эміграцыі й нат па-за ёю хаўрусу ўзаемнае пахвалы.

Але, дасьць Бог, загляне сонца й у наша ваконца!...

Барыс Данілюк

# НАТАТКІ АБ ЗЬЯВЕ "ПРАВАСЛАЎНАГА АТЭІЗМУ"

Праваслаўны атэізм, тэрмін, якім гэтак трапна акрэсьліў сябе чалавек, што сёньня займае становішча прэзыдэнта Беларусі - зьява нятолькі пост-савецкае Беларусі. Перш за ўсё гэта адлюстраваньне дагматычнае замкнёнасьці й ангажаванасьці ў цывільныя справы расейскага праваслаўя - прэтэндэнта на "гаспадара душаў" сёньняшняе Беларусі. Гэтыя фактары ў сваю чаргу спарадзілі ў агульнаграмадзкай сьведамасьці элементы фанатызму й неталерантнасьці.

Парадаксальна, што сумуюць па савецкіх часох і падтрымліваюць рэфэрэндумы аб собскім скасаваньні як незалежнае нацыі людзі, якія прэтэндуюць называцца праваслаўнымі хрысьціянамі ды яшчэ й патрыётамі.

. . .

Так званае афіцыйнае праваслаўе на Беларусі, як частка Царквы суседняга народу, ёсьць менавіта расейскім фэномэнам, што сфармаваўся як ваяўнічае веравызнаньне сфакусаванае пераважна на захаваньні абрадных традыцыяў і варожае да кожнае праявы рэфармаваньня, або зьменаў у адпаведнасьці йзь зьменамі навакольнага грамадзтва.

Рэлігійная самаідэнтыфікацыя насельнікаў Беларусі арыентуецца на веравызнаньне дзядоў, а то й прадзедаў (бо пакаленьне бацькоў у пераважнай большасьці, асабліва ў гарадох - атэісты, ці індыфэрэнты), якое яны лічаць праваслаўем, хоць яно й ня тоеснае з сучасным фэномэнам РПЦ. У савецкія часы на Беларусі праваслаўная рэлігійна-этычная традыцыя перарвалася й у часавым, і прасторавым аспэкце, г.зн., што адыход ад рэлігіі шэрагу пакаленьняў спыніў перадачу традыцыі праз сям'ю, а калектывізацыя й міграцыя сялянаў у гарады перарвала трываньне традыцыі на вёсцы.

Таму рэлігійны ўздым канца 80-х - пачатку 90-х гадоў адбываўся фактычна па штучных, а часам выпадковых парадыгмах, якія ўзьнікалі праз асьвятленьне рэлігійных пытаньняў ў сродках масавай інфармацыі, зьмены ў стаўленьні да рэлігіі з боку савецкіх уладаў, а таксама праз спарадычнае наведваньне цэркваў. Не малы ўплыў мелі й зьявы калектыўнае сьведамасьці, калі ў выніку шэрагу фактараў хрысьціянства зрабілася "модным", стала часткаю сэкулярнае штодзённае культуры. Нашэньне крыжыкаў зрабілася стылёвым для вонкавага выгляду (іх можна было ўбачыць нават на жыдох), а наведваньне цэркваў мела мэтай больш сацыялізацыю, як рэлігійныя патрэбы. Так праваслаўе РПЦ і атэістычная штодзённая савецкая культура ўступілі ў сымбіёз, суіснаваньне. Менавіта гэткі сымбіёз спарадзіў зьяву праваслаўнага атэізму.

Большасьць сёньняшніх вернікаў прыйшла да веры ў сталым узросьце, але іхны выбар быў абмежаваны тым самым фэномэнам расейскага праваслаўя, што незацікаўленае ў разьвіцьці менавіта беларускае праваслаўнае традыцыі й ейнага ўвасабленьня - Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Як вынік гэтая вера ня мае мяйсцовых беларускіх каранёў. У дадатак да гэтага фактычна большасьць вернікаў ня мае сямейнае рэлігійнае традыцыі, а таксама інтымнае памяці аб спасьціжэньні Бога ў дзяцінстве, што на пачатку жыцьця фармуюць мараль і сьветапогляд ў не-атэістычных сацыяльных групах.

Гістарычна асноўнай хібай беларускага праваслаўя была нястача ўпэўненасьці ў свае сілы, вынас цэнтру вагі гэтае рэлігійнае канфэсыі па-за ейныя межы, у Канстантынопаль або Маскву, "саманедастатковасьць", што характэрная й сёньня. Пры гэтым трэба адзначыць, што яшчэ да савецкіх часоў собска беларуская праваслаўная традыцыя была аслабленая й размытая ўвядзеньнем вуніі, і больш таго, пры скасаваньні вуніі была цалком замененая іншай традыцыяй, праваслаўем расейскага гатунку.

Адпаведна трансфармаваная "вера" ня прыйнялася глыбока, ня здолела ажно да сёньняшняга дня канчаткова выціснуць паганскія элемэнты з калектыўнае рэлігійнае сьведамасьці. Сьвятар гэтае веры, наўсуперак ягонаму папулярнаму найменьню "бацюшка", ніколі ня быў ані бацькам для вернікаў, ані дарадчыкам. Гэта быў ня "minister", як у заходніх канфэсыях, але хутчэй афіцыйная асоба, што ня мела эмацыйных сувязяў з парахвіянамі й сацыяльных абавязкаў у дачыненьні да іх. Дачыненьні пастыра й паствы хутчэй нагадвалі дачыненьні начальніка й падначаленых. Часта рэлігійнасьць успрыймалася вернікамі як сума культавых маніпуляцыяў, ахвяраваньняў сьвятыні й сьвятару ўзамен за атрыманьне жыцьцёвых і па-за жыцьцёвых палёгкаў. За вылучэньнем абавязкавае споведзі, людзі звычайна не дзялілі йзь сьвятаром іхныя беды, і ня шукалі ад яго суцяшэньня іхнага смутку й жальбы.

Гэтым праваслаўныя вернікі адрозьніваліся нават ад іхных іншаверных суседзяў і землякоў, што пры кожнай адпаведнай нагодзе зьвярталіся па дапамогу й параду да рабінаў і ксяндзоў. Гэта значыць, што духовае лідарства ніколі ня было выразным, і калі йснавала наагул, то мела лякальны характар. Гэтая рыса праваслаўнага сьвятарства з аднаго боку не дала беларускаму грамадзтву згуртавацца на рэлігійнай глебе так, як палякі, або заходнія ўкраінцы. З другога боку, праз тое самае беларусы ня былі канчаткова інтэграваныя ў расейскае грамадзтва. Нястача сацыяльнае й інавацыйнае актыўнасьці расейскага праваслаўя адчуваецца й сёньня, калі РПЦ губляе вернікаў, што знаходзяць задаваленьне іхных духовых патрэбаў у іншых веравызнаньнях. Трымаючыся "старыны", РПЦ, каб захаваць ейны традыцыйны статус, ускладае большую надзею на дзяржаўныя адміністрацыйныя сродкі, як на царкоўныя - пастырскія й місыянэрскія. Прыкладам гэтага можна назваць хоць бы новы закон Расейскае фэдэрацыі аб рэлігійных арганізацыях, што абмяжоўвае правы іншых як РПЦ хрысьціянскіх канфэсыяў, а таксама пастанову Вярхоўнага савету Беларусі зь ліпеня 1995 г. аб наданьні РПЦ спэцыяльных палёгкаў.

Распаўсюджанае сярод насельніцтва адчуваньне пракаветнасьці праваслаўя, ягонае здаўна-давён прысутнасьці на Беларусі бязумоўна ведае кожны, хто сутыкаецца з рэлігійнымі пытаньнямі. І прывязанасьць да праваслаўя - хутчэй як да рэлігіі продкаў, рэлігіі гэтае зямлі, сьпеваў, зіхценьня абразоў, сьвятаў - чымся адданасьць РПЦ, сёньня ёсьць неадменнай рысай беларускага грамадзтва. Але, нажаль, гэтая прывязанасьць у камбінацыі з пазыцыяй сьвятарства й рэлігійнай сьведамасьцяй, што можна хутчэй лічыць калектыўнай, а не індывідуальнай, дала падставы для зьявы, якую можна ўмоўна акрэсьліць у пэўным сэньсе парадаксальным тэрмінам "праваслаўны атэізм". Атэізм як такі, няпрызнаньне трансцэдэнтовага пачатку, што стварыў і накіроўвае сьвет, - атрымаў праз асаблівасьці гістарычнага лёсу разглядваных земляў адценьне ірацыянальнае інталеранцыі, інстынктавай боязі ўсяго заходняга й лібэральнага.

Нястача індывідуалістычнае традыцыі, бацькоўска-патэрналістычнае стаўленьне грамадзтва й царквы да індывіда спарадзілі гіпертрафаваны перакос у бок калектыўнае сьведамасьці, што больш паддаецца інсьпіраваным уплывам з кожнага боку. У сваю чаргу калектыўная сьведамасьць, над якой рабілі экспэры-

мэнты бальшавікі, спрычынілася да масавага адыходу насельніцтва ад рэлігіі за часы панаваньня Саветаў. У новай сытуацыі калектыўная сьведамасьць хістнулася ў супрацьлеглы бок, і асобны індывід апынуўся ў царкве, не абцяжарыўшы сябе рэфлексыяй наконт таго, што менавіта ён тут робіць і чаго спадзяецца ад царквы. Інтымная рэлігійная веда, спасьцігненьне Бога стаяць на другім пляне за тэхнічнымі ведамі аб тым, калі трэба укленчыць на адправе, у які бок хрысьціцца й г.д. Праз гэта й хрысьціянскія каштоўнасьці любові да суседа, цярплівасьці зусім ня ёсьць, словамі Эрасма з Ратэрдаму, зброяй расейска-праваслаўнага "хрысьціянскага ваяра". РПЦ больш скардзіцца й бэсьціць іншыя канфэсіі за канкурэнцыю, як вядзе катэхічную й місыянэрскую дзейнасьць у Расеі. На Беларусі РПЦ робіць націск на цывільныя ўлады каб забараніць дзейнасьць Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й не дапусьціць да стварэньня руху за Беларускую Аўтакефалію.

Парадаксальна спалучылася неспалучальнае, так як у расейскай палітыцы радыкалізм фашыстоўскага кшталту спалучыўся з камуністычнай фразэалёгіяй, і гэта адразу было перайнятае пост-камуністычнымі структурамі на Беларусі. РПЦ пераважна падтрымлівае сілы, што ўслаўляюць савецкія часы, калі гэтая самая РПЦ перасьледавалася. Гэтая супярэчнасьць ёсьць небясьпекай для расейскае царквы, а таму эфэктыўнасьць і трываласьць веравызнаньня залежыць ад таго, як гэтая супярэчнасьць будзе вырашаная ў будучым. Трэба спадзявацца, што будучыня Беларусі зьвязаная нятолькі з гэтай царквою.

У кожным разе беларускія людзі маюць права на непасрэднае інфармаваньне аб Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве, а гэтая Царква, як найбольш натуральная для Беларусі, глыбока зьвязаная з гэтай зямлёю й ейнай гісторыяй, мае права на свабодную дзейнасьць і ўсталяваньне Праваслаўя без фанатызму, нецярплівасьці, палітызаванасьці, і бяз гульняў з атэізмам.

В. Зайка

~ *** ~

## ЗАПРАЎДНЫ ВОБРАЗ МАСКОЎСКАЕ ПАТРЫЯРХІІ

(ЗАКАНЧЭНЬНЕ З №№ 2-3, 4 - 1996, 1 - 1997)

### ПАСЬЛЯСЛОЎЕ

Няхай чытач ня зьнеахвоціцца ад налёту іроніі ў гэтых нататках на гэткую ўзвышаную тэму. Іронія дае мне магчымасьць вытрымоўваць стары боль за цяжкую долю расейскага праваслаўя.

Вось ужо 30 год я бараню маю Царкву ад вонкавых і нутраных ворагаў, хачу гаварыць праз ейныя нядугі, бо ведаю, што хвароба, загнаная ў нутро, вядзе да загубы.

І верачым, праваслаўным хрысьціянам, што ў запраўднасьці й становяць царкву ў ейнай поўнасьці, і ўсяму расейскаму грамадзтву трэба ведаць праўду праз Маскоўскую патрыярхію, што незаконна абвесьціла сябе праўнай наступніцай роднага праваслаўя, як горкаю гэтая праўда ня была-б. У 1965-м годзе, пасьля майго першага выступу (разам з а. Мікалаям Ешліманам) з адкрытым лістом праз становішча Царквы ў СССР, дзяржбясьпека рукамі патрыярха Аляксея І забараніла мяне ў сьвяшчэннаслужэньні на 21 год, дзеючы больш гуманна, як патрыярх Аляксей II зь ягоным сынодам, што ўжо з собскае ініцыятывы пазбавілі мяне сьвятарскае годнасьці (сану). Гэтае пастановы, што груба зьневажала каноны сусьветнага й расейскага праваслаўя, я ня вызнаў. Быў і застаюся сьвятаром Праваслаўнае Царквы й чакаю справядлівае пастановы найвышэйшае царкоўнае інстанцыі, што можа разьвязаць маю справу - Краёвага сабору.

Бяз адраджэньня праваслаўя немагчымае адраджэньне Расеі. Але запраўднае адраджэньне - гэта не статыстычныя зьвесткі праз перададзеныя дзяржаваю цэрквы й манастыры, ня колькасьць асьвячаных офісаў і ня дэманстрацыйнае стаяньне дзяржаўнае намэнклятуры йзь сьвечкаю ў руцэ.

Запраўднае адраджэньне - гэта духовая самасьведамасьць грамадзтва, адраджэньне найвышэйшых маральных арыентыроў, што немагчымае бяз каяньня й адрачэньня ад злачынстваў мінулага.

Першаю прыклад гэткага ймкненьня да праўды мела паказаць Расейская праваслаўная царква, якой шмат за што трэба адпакутаваць, ды Маскоўская патрыярхія ўпорыста адмаўляецца вызнаць праўду праз яе самую, з карысьлівай мэтай перакручвае ейную гісторыю, складаючы собскую міталёгію, дзеля абгрунтаваньня ейнага ўяўнога паходжаньня ад сьвятых князя Уладзімера, звышдагоднага Сергія, патрыярха Ціхана.

Пасьля апублікаваньня камісыяй Вярхоўнага Савету Расеі часткі архіўных матэрыялаў праз агентурную службу найвышэйшага духавенства РПЦ, пад націскам галоснасьці Патрыярхія ў 1992 годзе была прымушаная стварыць сваю, ачоленую кастромскім япіскапам Аляксандрам, камісыю дзеля дасьледаваньня фактаў супрацоўніцтва прадстаўнікоў Царквы йз спэцслужбамі. Але праз мінулыя гады гэтая камісыя ня выявіла ніякіх азнакаў ейнае дзейнасьці; прамоўчаў праз вынікі дасьледаваньняў і Архірэйскі сабор у 1992 годзе. Бесьпярэчна, што йснаваньне патрыярхійнае камісіі (яна дасюль фармальна ня зьліквідаваная) за запраўдную мэту мае ня выкрыцьцё перад царквою праўды праз ганебныя заслугі кіраўніцтва РПЦ перад "сацыялістычнай Бацькаўшчынай", а наадварот, прыхаваньне.

Лідары Маскоўскае патрыярхіі ня вызнаюць і не запярэчваюць іхнае шматгадовае працы на КДБ, уважаючы, што няма нікога, каб прымусіць іх гаварыць. Гэтым самым патрыярх і сынод узноў і ўзноў выяўляюць злачынную зьнявагу й абыякавасьць да парахвіянаў, адарванасьць ад народу. Сярод герархаў царквы адно літоўскі архіяпіскап Хрызастом знайшоў у сабе адвагу шчыра пацьвердзіць ягонае агентурнае мінулае пад мянушкаю "Рэстаўратар".

У 1992 годзе парлямэнцкая камісыя для пытаньняў дасьледаваньня прычынаў ды абставінаў ГКПЧ прыйняла адумысловую ўхвалу з прапановаю забараніць выкарыстоўваньне духавенства ў якасьці супрацоўнікаў спэцворганаў. На маю прапанову Вярхоўны Савет Расеі ўхваліў дзейныя й дасюль папраўкі да заканадаўства, што ахопліваюць сьвятараслужбітаў ды залічаюць іх да катэгорыі асобаў (між імі пракуроры, судзьдзі, дэпутаты), вэрбаваць якіх спэцворганам забаронена; ды зробленая парлямэнцкай камісыяй прапанова патрыярхіі самой прыйняць нутраныя каноны, што не дазвалялі-б духавенству па сумяшчэньню ўдаваць, якое яна ня прыйняла.

Пасьля ўпаду СССР патрыярхія дазнае паразы ў блізкім замежжы. Грамады Украіны, Эстоніі, Латвіі, Малдавіі, дзеля нежаданьня патрыярхіі стаць на шлях ачышчэньня ды адраджэньня, у пераважнай большасьці адасабняюцца ад "Маскоўскага пасаду". Ня дзіва што ў сьведамасьці гэтых цэркваў РПЦ ёсьць блізьнюком камуна-савецкага таталітарызму.

Сур'ёзнага духовага ўплыву на грамадзтва патрыярхія ня мае ні там, ані ў самой Расеі.

Як вывадак таталітарнага рэжыму, адмовіўшыся ад сабрнага ладу, яна самая ёсьць арганізацыяй таталітарнага тыпу. Натуральна, што яна не знаходзіць

сабе мейсца ў свабодным дэмакратычным грамадзтве. Гэтым тлумачыцца ейная цяга да палітычных утварэньняў камуністычнага ды нацыянальна-патрыятычнага кірунку, што маюць аналягічную таталітарную структуру іхных арганізацыяў.

У шматвяковай гісторыі хрысьціянства, цэрквы, што часта трапляли ў смугі глыбокага крызісу, выходзілі зь яго жыццяздатнымі адно тады, калі бралі шырокі ўдзел у царкоўным адраджэньні веруючага народу. Ня можа быць выйняткам з гэтае гістарычнае заканамернасьці й трагічная доля Расейскае праваслаўнае царквы.

Аднаўленьне Праваслаўнае царквы ў Расеі, такою як яна павінна быць, немагчымае бяз глыбокіх нутраных рэформаў і павароту да дэмакратычных прынцыпаў Краёвага сабору 1917-1918 гадоў, на падставе якіх трэба перабудаваць сыстэму пабудовы Расейскае праваслаўнае царквы: скасаваць усяўладнасьць Патрыярхіі, Сьвяцейнага сыноду, адрадзіць кананічную адданасьць духавенства па ўсёй вэртыкалі герархіі. Зрабіць гэта немагчыма бязь люстрацыі найвышэйшага кіраўніцтва патрыярхіі: асобы, пастаўленыя на высокія царкоўныя становішчы з наказу спэцслужбаў, маюць адказаць перад вернікамі за спрыяньне бязбожнаму рэжыму, або хоць публічна пакаяцца за іхную юдаўскую мінуласьць. Адно пазбыўшыся спадчыны камунізму, царква можа стаць грамадзкаю сілаю, адчыніць вусны на пропаведзь, служыць сьвету прыкладам ейнымі добрымі справамі. Інакш РПЦ пертворыцца ў рэліктовы этнаграфічны заказьнік, на краму, што гандлюе абрадамі для цёмнага неўцаркоўленага народу.

13 ліпеня 1995-га году. Сьвятар Глеб Якунін

*Ад Рэдакцыі: Сьвятар Глеб Якунін, што праз шмат год дазнаваў перасьледаваньні ад савецкае ўлады, апынуўся ў няміласьці й новых гаспадароў Расеі, ды іхных верных слугаў - кіраўнікоў Расейскае Праваслаўнае Царквы. За ягоныя шчырыя клопаты праз чысьціню гэтае царквы яму было забаронена на 21 год служыць адправы й выконваць абрады, а калі гэта ня прымусіла змоўкнуць, ён быў пазбаўлены сьвятарскае годнасьці (сану) ды ўрэшт паддадзены анафеме.*

*Сьвятар Глеб Якунін цяпер уваходзіць у юрысдыкцыю Кіяўскага Патрыярхату Украінскае Праваслаўнае Царквы.*

~ *** ~

## НЕБЯСЬПЕКА Ў ПРАЎДЗЕ

Дэмакратычная й незалежніцкая беларуская газэта "Наша Ніва" ў № 15-16 з 21.4.1997 зьмясьціла вялікоднае прывітаньне Я.М. Мітрапаліта Ізяслава вернікам БАПЦ і ўсім праваслаўным беларусам.

Уладны сёньня на Беларусі таталітарны рэжым палічыў публікацыю за пагрозу дзяржаўнай бясьпецы й абапіраючыся на замацаванае законамі бясправе зьвінавацiў рэдактара газэты сп. Сяргея Дубаўца ў парушэньні ўстаноўленых забаронаў ды папярэдзіў аб магчымасьці закрыцьця газэты.

Тэкст афіцыйнага папярэджаньня ў ягоным расейскім арыгінале перадрукоўваем ніжэй:

"Прокуратура Республики Беларусь (адрыс, дата, №).

Главному редактору газеты "Наша Нива" Дубовцу С. А.

Официальное предупреждение о недопустимости нарушения Закона.

В газете "Наша Нива", главным редактором которой Вы являетесь, в № 15-16 от 21.04.97 опубликовано приветствие так называемого Митрополита Белорусской Автокефальной Православной Церкви Изяслава в связи с праздником Пасхи.

Данной публикацией газета допустила нарушение требований действующего законодательства Республики Беларусь..

Упомянутая религиозная организация не зарегистрирована на территории республики в установленном Законом порядке, в связи с чем её деятельность, в том числе и распространение информационных материалов религиозного содержания, противоречит Закону Республики Беларусь "О свободе вероисповеданий и религиозных организациях".

Кроме того, содержащиеся в данной публикации высказывания носят политизированный, оппозиционный правительству характер, что несовместимо с функциями религиозных организаций, и направлены на разжигание враждебности к другим конфесиям, чем нарушаются требования п. 4 ст. 5 Закона Республики Беларусь "О печати и иных средствах массовой информации", запрещающего использование средств массовой информации для разжигания национальной, социальной, расовой, религиозной нетерпимости или враждебности.

На основании изложенного, руководствуясь п. 4 ч. 2 ст. 2 и ст. 34 Закона республики Беларусь "О Прокуратуре Республики Беларусь" официально предупреждаю Вас о недопустимости нарушения Закона и разъясняю, что в случае повторного нарушения со стороны газеты может быть поставлен вопрос о прекращении её деятельности.

Заместитель Генерального прокурора Республики Беларусь
М. В. Снегирь"

Пасьля атрыманьня копіі вышэй зьмешчанага папярэджаньня Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў выслаў сп. Сяргею Дубаўцу ліст наступнага зьместу:

"Вашая Міласьць Спадару Рэдактар!

З захапленьнем Вашай навагай служыць Божай Праўдзе дзякую Вам, што былі ласкавыя зьмясьціць у рэдагаванай Вамі газэце (...Рэд.) маё вялікоднае прывітаньне вернікам БАПЦ і ўсім праваслаўным беларусам.

З абурэньнем я й вернікі БАПЦ даведаліся, што гэтае выкананьне журналісцкага абавязку інфармаваць чытачоў праз усё, што іх датычыць і цікавіць спрычыніла Вам з боку сучасных уладаў Рэспублікі Беларусь няпрыемнасьці й пагрозу закрыцьця газэты.

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ўважае за Ейнае права й маральны абавязак нятолькі настаўляць на годнае жыцьцё паасобных людзей, але й супрацьўляцца акупацыі Беларусі чужой скарумпаванай Царквою ды выяўляць, як адкрытае, гэтак і прыхаванае законамі бясправе сьвецкіх уладаў, незалежна ад іхнага ідэалягічнага, ці палітычнага кірунку, ды пратэставаць супраць усялякае нягоднасьці.

Разам з гэтым Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква падтрымоўвае й права ды маральны абавязак прэсы даводзіць да ведама грамадзтва, паводле ейнага свабоднага выбару, праўдныя весткі й камэнтары праз актуальныя падзеі й зьявы, што Вы й зрабілі публікуючы маё вялікоднае прывітаньне.

З увагі на ўсё, што вышэй адзначана, я й Рада ды Кансысторыя БАПЦ гэтым выказваем пратэст супраць таталітарных паймкненьняў сучасных уладаў Рэспублікі Беларусь забараніць і пакараць свабоду сумленьня ды інфармацыі.

Мы зробім усё магчымае, каб гэты пратэст дайшоў да ведама нятолькі беларускага грамадзтва на Бацькаўшчыне ды ў эміграцыі, але й дзяржаўных уладаў ЗША ды зайнятых абаронай людзкіх правоў ды свабоды рэлігіі арганізацыяў.

Схіляючы чало ў пашане перад Вашай журналісцкай сумленнасьцяй і грамадзянскай адвагай у ваблічы ўзброенае сілай несправядлівасьці, упрашаю Вам Божае апекі й дапамогі ў сучасных цяжкасьцях і небясьпеках, ды жадаю, каб Вашая дзейнасьць завяршылася свабодай нашае любае Бацькаўшчыны.

Сьцеражы, Божа, Беларускі Край!

З малітвамі за Вас + Мітрапаліт Ізяслаў, Першагерарх
Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

Копіі гэтых дакумэнтаў зь лістом ад Кансысторыі БАПЦ былі разасланыя кіраўнікам замежных беларускіх радыёперадачаў, рэдактарам беларускіх дэмакратычных газэтаў ды галовам незалежніцкіх арганізацыяў ў сьвеце.

# ДА НАС І ПРАЗ НАС ПІШУЦЬ

Усё часьцей і часьцей навед на пошту становіцца для нас радаснай падзеяй, бо ў скрынцы знаходзім довады карысьці з нашае працы - прыхільныя водгукі чытачоў "Царкоўнага Пасланца" з Бацькаўшчыны й замежжа.

Толькі пасьля Вялікадня мы атрымалі некалькі дзясяткаў лістоў з гэткімі добрымі для нас весткамі з усіх бакоў Беларусі.

Частка зь іх - адно просьбы дасылаць часапіс, што мы пастараемся зрабіць, але больш яшчэ выявы ўсьцехі з сустрэчы з гэткім выданьнем, галасы ймкненьняў да Бога без адрачэньня ад тых асаблівасьцяў, якімі Ён нас - беларусаў абдарыў, зразуменьня, што без свае роднае Праваслаўнае Царквы немагчымая дзяржаўная незалежнасьць Краю.

Нажаль, адказаць нашым добразычліўцам, што пішучы закранаюць цікавыя й важныя пытаньні, кожнаму асобным лістом, мы ня маем фізычнае магчымасьці й таму будзем прабаваць, хоць каратка, пагутарыць зь імі на бачынах "Царкоўнага Пасланца".

Перш за ўсё, аднак, хочам падзякаваць нашай патрыятычнай і дэмакратычнай прэсе, што, нягледзячы, на пагрозу пакараньняў з боку сёньняшняе ўлады ў Беларусі, інфармуе ейных чытачоў праз наш часапіс і Беларускую Аўтакефальную Правслаўную Царкву.

Гэткі добры ўчынак нядаўна зрабіла рэдакцыя "Тыднёвіка Магілёўскага", што ў № 9-м за 23.05.1997 зьмясьціла вельмі прыемную нам зацемку праз нашае выданьне, зь якое ніжэй падаем кароткія выпісы:

"З тых нумароў, якімі валодае рэдакцыя (дзякуючы музею), можна зрабіць выснову аб выключнай патрыятычнасьці БАПЦ, скіраванасьці яе намаганняў на аднаўленне "запраўды свае роднае, незалежнае ад вонкавых інтарэсаў" беларускай праваслаўнай царквы".

"Адна з асноўных думак, якая сустракаецца на старонках "Царкоўнага Пасланца", такая: вялікі сэнс у жыцці кожнага народу мае прыхільная да яго нацыянальных памкненняў Царква і немагчыма дасягнуць ды захаваць без такой Царквы дзяржаўную незалежнасьць.

Цалкам падзяляючы гэтую тэзу, мяркуем, што кожны зацікаўлены водгук з Бацькаўшчыны стане для выдаўцоў "ЦП" прыемным і хвалюючым сведчаннем таго, што перш за ўсё сярод праваслаўных вернікаў на радзіме ёсьць патрыёты, якія прагнуць сапраўды **беларускай праваслаўнай царквы".**

Газэта таксама перадрукавала з "ЦП" верш "Вочы" й падала наш адрыс, за што ёй яшчэ раз вялікі дзякуй.

Цяпер пяройдзем да адказаў на паасобныя лісты, не падаючы, із зразумелых прычынаў, апрача першых літараў імёнаў аўтараў, ніякае іншае празь іх інфармацыі.

Спадзяемся, што кожны пазнае тое, што напісаў.

Уводным і паўторным матывам у кожным амаль лісьце з Бацькаўшчыны гучыць нараканьне на няголнасьць акупацыйнае й каланізатарскае Расейскае Праваслаўнае Царквы на Беларусі, абурэньне з разыходжаньня ейных дзеяў із прыгожымі словамі пропаведзяў.

Гэтай жахлівай запраўднасьці ў "Царкоўным Пасланцы" ўжо прысьвячалася ды яшчэ будзе прысьвячацца нямала мейсца й таму мы гэтта яе абыйдзем, а займемся пытаньнямі, што ў гэтай сытуацыі рабіць.

Тымбольш, што пачынаюць даходзіць і галасы расчараваньня зь нядаўна прапагаванае нямала кім з адраджэнцаў панацэі на нашыя рэлігійна-царкоўныя беды - вуніі.

З гэтага, пэўна-ж, і няма дзіва, бо, як у маскоўскай, гэтак і ватыканскай вуніі, гаспадары, ці прамаўляюць яны пабеларуску, ці не, чужыя.

Дарэчы тут сказаць, што ў нас, нажаль, адзіным мерывам згоднасьці арганізацыі, што выдае сябе за царкоўную, з нашымі нацыянальнымі інтарэсамі, ёсьць паказное карыстаньне нейкім падабенствам беларускае мовы, без развагі й дасьледаваньня запраўднасьці ейнага назову й сумленнасьці ейных абяцаньняў.

Гэткім чынам цяпер сярод некаторых нашых адраджэнцаў пайшла мода на сэкту, якую ачольваюць Э. Рыжы й П. Гушча, што ня будучы праваслаўнымі духаўнікамі, ані наагул праваслаўнымі, а карыстаючыся поўным, ці набліжаным да яго назовам БАПЦ, зманваюць у іхныя цянёты імкненных да свае Царквы, ды нясьведамых праўды вернікаў.

Гэтая дывэрсыя добрых паймкненьняў і творчае энэргіі на падманнае прадпрыемства робіць шкоду справе ўзнаўленьня запраўднае БАПЦ і праз блытаніну назоваў можа Яе бязь віны скампрамітаваць, ды так, ці йнакш пойдзе на карысьць уладнае на Беларусі Маскоўскае патрыярхіі.

Гэткая карысьць ёй будзе й калі, у выніку прыкрых дазнаньняў з РПЦ, нашыя добрыя людзі, падобна да В. будуць думаць, што "сам я наўрад ці ўжо здолею прыняць праваслаўную веру, як то трэба".

Мы хочам сказаць ім, што прыйняць Праваслаўную Веру ў ейнай поўнай цэласьці й глыбіні нікому адразу немагчыма, у ёй толькі можна й трэба дасканаліцца, а пачаць гэта пошукам знаёмства зь ёю ды добрымі ўчынкамі няпозна ў кожнай гадзіне.

Зрэштай В., падтрымоўваючы справу ўзнаўленьня БАПЦ на Бацькаўшчыне ды ахвяроўваючы ягоную ў гэтым дапамогу, ужо на гэты шлях дасканаленьня ступіў, а далей ягоныя крокі сам Бог пакіруе.

На пытаньне Ю., "ці не трэба наведваць цэрквы расейскае псеўда-праваслаўшчыны? А што рабіць, калі іншых покуь няма?", зьвернем ягоную ўвагу на тое, што наш Збавец Ісус Хрыстос, ствараючы Царкву Новага Наказу, не абыходзіў існавалых тады бажніцаў, але, калі была нагода весьціў там Ягоную Навуку.

Таму й мы, калі здараюцца нагоды, ці патрэбы наведваць дзейныя каля нас не паводле Божага наказу цэрквы, павінны ймкнуцца выкарыстаць гэтыя сустрэчы на ўсьведамленьне зманутых вернікаў і прыдбаньне прыхільнікаў нашай справядлівай справе.

Заадно мы дзякуем Ю. за агляд рэлігійнага жыцьця ў ваколіцы, дзе ён жыве, ды, шкадуючы, што ягоны верш не падышоў у часапіс, раім гэтым не зьнеахвочвацца, а разьвіваць дадзены яму дар слова.

Вельмі разумна й да справы піша В., кажучы "Вось у гэты час, калі шмат вернікаў зразумелі, хто падтрымлівае тыранію і знішчэнне нацыі, і патрэбна данесці да іх, што праўда тут, побач - родная БАПЦ. І не трэба шукаць і пераходзіць у іншыя канфесіі, людзям цяжка зьмяніць сьветапогляд.

Буду рад дапамагчы чым небудзь. Калі ласка напішыце, куды выслаць хочаб нейкую матэрыяльную дапамогу ад нашай бядноты".

У колькіх ягоных сказах выказаная цэлая праграма дзейнасьці, да ўжыцьцяўленьня якое калі далучыцца даволі пабожных патрыётаў, дык на пытаньне З. "Буду ўдзячны за інфармацыю пра набажэнствы, якія праводзяцца сьвятарамі БАПЦ у Менску, ці у іншых гарадох Беларусі. Асабліва буду ўдзячны за магчымасць набыць рэлігійную літаратуру пабеларуску" можна будзе адказаць не шкадаваньнем, што таго, чаго ён шукае яшчэ няма, а шчодрай інфармацыяй дзе й што.

З падзякай за пахвалу нам, падаем яе, разам з практычнымі заўвагамі зь ліста В.:

"З вялікай цікавасцю прачытаў яго ("ЦП"-Рэд). Зьмястоўныя артыкулы Б. Данілюка, Б. Шчарыча, вершы, псальмы, пераклады і галоўнае - пасланьні першагерарха БАПЦ Іэяслава робяць часопіс цікавым.

## ДА НАС І ПРАЗ НАС ПІШУЦЬ

(ПРАЦЯГ З 13-е БАЧ.)

Падабаецца мне і стыль (або тон) у якім напісаны часопіс - цьвёрды, упэўнены, недапускаючы разнагалосьсяў (так і трэба, бо Царква Божая павінна стаяць, як камень, непахісная). За гэта яшчэ раз Вам дзякую.

... толькі ў Праваслаўных прыходах нашых чуеш расейшчыну. Добра б было, каб БАПЦ сваёй дзейнасцю выправіла гэтае становішча. Аднак на Беларусі, на жаль нічога ня ведаюць пра беларускую Аўтакефалію.

Знаёмы алтарнік сказаў мне, што БАПЦ не існуе на Беларусі, а ў Амэрыцы ёсьць толькі дробныя групкі. Мне гэта балюча чуць. У сучасным друку праўдзівую інфармацыю атрымаць немагчыма... Патрэбна нейкая брашура з змястоўнай інфармацыяй.

Увогуле б хацелася, каб "ЦП" стаў друкавацца на Беларусі і быў масавым ..., каб на яго можна было падпісацца ( бо ўсёж такі выдаваць часопіс за ахвяраваньні, мабыць, цяжка)".

У справе мовы ў сьвятынях хочам яшчэ раз сказаць, што ўжываньне ў іх, а таксама ўва ўсім царкоўным жыцьці беларускае, і ніякае іншае, уважаем за неабходнасьць, якую можна раўнаць адно з чалавечым дыханьнем.

Што да інфармацыі праз БАПЦ, дык цяжка спадзявацца, каб яе пашыралі акупанты нашага Краю, калі й беларускія незалежнікі значаньня нацыянальнае Праваслаўнае Царквы не разумеюць і робяць дарэмныя стаўкі, або на перараджэньне Экзархату РПЦ у Беларусі, або на хрост Беларускага Народу ў іншую веру.

Ведама-ж, ня спрыяюць пашырэньню гэкае інфармацыі й дзяржаўныя забароны, але, што можна на нашыя сілы рабіць, як найлепш відаць із "ЦП", мы робім.

Ня трэба лічыць за сакрэт, ці сорам, што гэтыя сілы невялікія, бо невялікая й беларуская эміграцыя (ды нявельмі згодная), але, якраз таму, трэба яшчэ мацней і шчадрэй падтрымоўваць іхную працу за мяжою ды перакідаць яе на Бацькаўшчыну і пашыраць там.

Пачаткам гэткага пашырэньня, спадзяемся, будзе друк ужо гэтага нумару "ЦП" на Беларусі, да якога дойдуць у недалёкай, дасьць Бог, будучыні й іншыя патрэбныя выданьні.

Узрушаючымі словамі выказаў ягоныя пачуцьці М., якімі ня можам не падзяліцца з усімі нашымі чытачамі:

"Вельмі доўга чакаў я таго выпадку, каб чытаць слова Божае на нашай роднай мове. Мы з сябрамі сваімі заўсёды вялі гутаркі аб тым, што малітва казаная на роднай мове заўсёды лепш даходзіць да Бога, бо яна ідзе з глыбіні душы нашай ад усяго народа і за весь народ. ...

Калі я чую малітву на нашай роднай мове, а мова наша вельмі прыгожая, асабліва ў малітве, мне здаецца што гэта і мая душа ачышчаецца і размаўляе з самім Богам.

Беларуская аўтакефальная царква праз газету "Царкоўны Пасланец" будзе мець магчымасць данесці да людзей свет дабра, літасці і ласкі Божае. А гэта дасць магчымасць аднавіць разам з Беларускай аўтакефальнай царквою і нашы нацыянальныя каштоўнасці і зрабіць шчаслівай і свабоднай нашу краіну і наш народ. Буду вельмі рады пасадзейнічаць гэтаму".

Ахвоту спрычыніцца да ўзнаўленьня БАПЦ у ваколіцы, дзе ён жыве, выказвае й Д., пішучы:

"З задавальненьнем прыму самы актыўны ўдзел у справе адраджэньня Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на Беларусі. ...

Сёння, як мне здаецца, ёсьць пэўны шанец зарэгістраваць у... абшчыну праваслаўных хрысьціян БАПЦ".

Ня ведаем, ці запраўды там, адкуль піша Д., магчыма зарэгістраваць грамаду вернікаў БАПЦ, таму, што яе яшчэ няма й трэба стварыць.

Гэтай арганізацыяй мы й прапануем яму зайняцца ды, калі намер стане фактам, пастараемся, чым зможам, дапамагчы.

Дарэчы будзе якраз тут сказаць, што да гэткае арганізацыйнае працы мы заклікаем ды заахвочваем усіх прыхільнікаў узнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне.

Трэба бо памятаць, што БАПЦ не наездны чужы культ, які будуць насаджваць прысланыя зза мяжы, матарыяльна забясьпечаныя місыянэры, а перахаванае вонках Краю Богам дадзенае нашаму Народу духовае багацьце, якое трэба самым варочаць і памнажаць на Бацькаўшчыне.

Гэтым вяртаньнем і памнажэньнем нельга пасьпяхова займацца бяз упэўненасьці ў праўднасьці, чысьціні й годнасьці пачынанае справы, на што слушна зварочвае ўвагу А. кажучы:

"... няма майго даверу царкоўным пасрэднікам паміж мною і Богам... няма тут чамусьці пакуль, як і ў свецкім жыцьці, абароны супраць прахадзімцаў, ірвачоў, нясумленных...

... я не знаёмы з прынцыпамі дзейнасці БАПЦ, **узроўнем яе маральнага падмурка (вядома, не на словах)** (Падкр. Рэд.). Сёньня няма прычын думаць аб вас благое, таму хочацца думаць добрае. А вашая беларуская мова (якой я вымушаны вучыцца па правілах "наркомаўкі") дадае сімпатыяў да вашых дзеяньняў.

Як ісці да Бога, якім шляхам... што класці у аснову веры сваёй...-пакуль пытаньняў больш, чым адказаў.

Але ж дзякуй, што прымушаеце думаць чалавека аб сваім жыцьці, а не мітусіцца вакол яго.

Яшчэ хацеў бы заўважыць, што, калі сёньня такі свет, трэба арыентавацца не на "чыстых" веруючых, а на тых, хто адчувае сваю неўладкаванасьць, незавершанасць існуючага ладу, ідзе да разумення Бога ў сваім сэрцы. Таму і тэматыка "Царкоўнага Пасланца", калі адрасуецца шырокаму колу чытачоў, павінна не замыкацца на адных царкоўных праблемах, звяртаць увагу на культуру, захаванне звычаяў, абрадаў (нават некаторых нехрысціянскіх), маралі ...

... я ... гатовы ў межах свайго раёну дапамагаць вам у пашырэнні ўплыву беларускай царквы. ... І чаму б нам не быць разам з вамі ў карыснай працы?..."

А., на нашую думку, мыляецца, дапушчаючы, што могуць быць зямныя пасярэднікі, або адвакаты, ці добрыя, ці дрэнныя, паміж Богам і людзьмі - кожны з нас павінен сам знайсьці дарогу да нашага Стварца, але паслухаць у ейным пошуку тых, што на яе накіроўваюць ды па ёй ісьці памагаюць, усёроўна як бы дзівіцца на мапу ў падарожжы, разумна.

Мы ўпэўненыя, што ў гэтым пошуку БАПЦ нікога на блудны шлях не наставіць, але, калі хто сумняваецца, дык нашыя кнігі й рукі адкрытыя, каб уверыцца ў праўдзе.

Хочам толькі папярэдзіць, што, калі хто спадзяецца адно зьмены царкоўнае шыльды зь якое-колечы іншае на беларускую, моцна памыляецца, бо апрача назову справа ў сутнасьці, у згодным із Збаўцовай Навукай разуменьні заданьня й ролі царквы ў жыцьці паасобных вернікаў, грамадзтва й нацыі.

Што да зьместу "Царкоўнага Пасланца", дык пажаданьні А. слушныя й карысныя, ды ў большасьці яны ўжо на ўвазе рэдакцыі, але, каб усе здаволіць, патрэбен найменш месячны журнал амэрыканскага пару-фунтовага абыйма, а нам і 16 бачынаў надрукаваць цяжка.

Але прапанову супрацоўніцтва з радасьцяй прыймаем.

## БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА
### КАНСЫСТОРЫЯ
### АСЬЦЯРОГА

Да ведама Кансысторыі БАПЦ узноў дайшлі весткі, што пастаўлены неправаслаўнымі й нядухоўнымі людзьмі ўжо на бышцам "праваслаўнага япіскапа" Пётра Гушча, зь ягонымі супольнікамі й памочнікамі, не перастае красьці добрае імя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й зманваць ім у сэктанцкае павуціньне жадных роднае Праваслаўнае Царквы беларускіх вернікаў.

Кансысторыя БАПЦ яшчэ раз заяўляе, што вышэй названы Пётра Гушча, як і ягоныя зьверхнікі ды супрацоўнікі, ніякае лучнасьці й нічога супольнага зь Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою, ані права карыстацца Ейным імём ня маюць.

Прысвойваньне гэтымі самасьвятамі імя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы вельмі выразна паказвае на іхны нізкі маральны ўзровень і прымушае Кансысторыю БАПЦ папярэдзіць, што іхная нясумленная дзейнасьць, замінаючы ў адраджэньні запраўднае БАПЦ на Бацькаўшчыне, ідзе, бы замоўленая, на карысьць Экзархату Маскоўскае патрыярхіі на Беларусі.

Раней, ці пазьней выкрытае іхнае ашуканства можа зьбянтэжыць і зьнеахвоціць да справы нацыянальнае Праваслаўнае Царквы сумленных вернікаў ды гэтым забясьпечыць поўную перамогу ў рэлігійным жыцьці нашага Краю ўспомненаму Экзархату.

З увагі на ўсё вышэй сказанае Кансысторыя БАПЦ асьцерагае ўсіх праваслаўных беларусаў ад удзелу ў нягодных учынках названых тут людзей ды заклікае гуртавацца да працы на ўзнаўленьне запраўднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне.

Кансысторыя БАПЦ

~ *** ~

### ДА НАС І ПРАЗ НА ПІШУЦЬ

(ЗАКАНЧЭНЬНЕ З 14-е БАЧ.)

Добрым словам аб "ЦП", а да таго й парадай адазваўся на вялікодны нумар нашага часапісу І.:

"Трапную мянушку даў Пасланец "царкоўнаму слову"! (арт. "Гадзюкаўка" - Рэд.). У мяне таксама былі такія думкі, а Ц.П. сочнай беларускай мовай выклаў іх!

Асобна хачу заўважыць пра артыкулы, прысьвечаныя Беларускай Аўтакефаліі: іх трэба што больш, і вялікіх, і малых, прысьвечаных і сёняшняму дню, і асабліва гісторыі. А лепш за ўсё каб былі кніжкі па гэтаму пытаньню, з падрабязным асьвятленьнем матар'ялаў, як у падручніках. Было б добра, каб "Ц.П." выходзіў найчасьцей...

Ёсьць яшчэ адна прапанова: чаму б Вам не наладзіць выданьне "Ц.П." на Беларусі, наладзіць тут друкарню... і выдаваць розную літаратуру? Спадзяюся, гэткія думкі і ў Вас ёсьць".

Думкі, пэўна-ж, і жаданьні ёсьць - часткова ўжо прабуем іх ужыцьцяўляць ды спадзяемся, што Бог паможа збыцца й іншым.

Даходзячы да канца нашае размовы з чытачамі з Бацькаўшчыны вернемся да цытаванага ў пачатку ліста В., каб падаць зь яго яшчэ пару сказаў:

"...само паняцьце "праваслаўе" было для мяне сымбалем імпэрыі, гвалту і нечага надзвычай чужога. Ваш "Царкоўны Пасланец" паспрыяў развіцьцю маіх думак у іншым напрамку. Я хутка ўспамянуў, што раз-пораз чуў пра нейкіх праваслаўных дзеячоў, якія зусім не адпавядалі маскоўскаму накірунку ў сваіх паводзінах і мэтах...

Дзякуй Вам і Богу, які паслаў мне веданьне пра родную Царкву на чужыне. ...

Дзякуй Вам, што Вы ёсьць такія й ніякія іншыя".

Дзякуй і Вам, Дарагія Чытачы, за Вашае падтрыманьне!.

### ШЧАСЬЦІ БОЖА!

Падчас кароткага побыту ў ЗША, у нядзелю, 24-га жнівеня г.г., шлюбам у Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы пачнуць супольнае жыцьцё на шляху да сямейнага шчасьця й да перамогі ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі сп-чна Марыя Байгот і сп. Павал Знавец.

Сп. Павал Знавец - ведамы нацыянальны дзеяч, апазыцыйны дэпутат забароненага Лукашэнкам ды дасюль дзейнага Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня, старшыня Аб'яднаньня Беларускае Сацыял-Дэмакратычнае Моладзі "Маладая Грамада" й выкладчык міжнароднага права БДУ, цяпер дазнае за ягоную дзейнасьць перасьледаваньні ад сёньняшніх уладаў Беларусі.

Выбраная ім спадарожніца жыцьця, сп-чна Марыя Байгот - маладая патрыётка, сяброўка АБСДМ "Маладая Грамада" й студэнтка 4-га курсу міжнародных эканамічных дачыненьняў Беларускага недзяржаўнага Унівэрсытэту Кіраваньня.

Гэтай выдатнай маладой пары ад шчырых сэрцаў жадаем шчасьця ў іхным сужэнскім жыцьці ды Божае помачы й апекі ў змаганьні аж да асягненьня ўсім нам супольнае мэты - незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны!

### 40 ГОД САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

Сёлета збудзецца 40 год як у 1957-м годзе Парахвія БАПЦ у Нью Ёрку купіла будынак на Атлэнтык Авэню № 401 у Брукліне й 3-га лістапада таго-ж году ў ім упяршыню была адпраўленая Сьв. Літургія.

Неўзабаве пасьля таго Парахвія выбрала сабе патронам Сьв. Кірылу Тураўскага й паколькі ейным кіраўніком стаў япіскап, царкоўны будынак атрымаў назоў Катэдральнага Сабору.

Парахвія плянуе адзначыць гэтую важную ў ейным і БАПЦ жыцьці дату адумысловай урачыстасьцяй і прынагодным артыкулам у "Царкоўным Пасланцы".

Цяперашніх і былых парахвіянаў, удзельнікаў і сьветкаў жыцьця парахвіі ад ейнага заснаваньня й па сёньняшні дзень, у якіх ёсьць здымкі, ці матарыялы, што датычаць парахвіяльнае гісторыі, Парахвіяльная Рада просіць пазычыць ёй гэтыя памяткі на юбілейную выставку, або ахвяраваць іх у памятны альбом, ці ў архіў.

**ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА Й ЗБОР АХВЯРАЎ НА ВЫДАНЬНЕ КАСЭТЫ ЗЬ БЕЛАРУСКІМІ ПЕСЬНЯМІ Ў ВЫСАКА МАСТАЦКІМ ВЫКАНАНЬНІ**

**ВАЛЯНТЫНЫ ПАРХОМЕНКА**
**й**
**АЛЕСЯ ДЫ ВОЛЬГІ КАЗАКОЎ**

**ПАШЛЕЦЕ ВАШУЮ ПАДПІСКУ, АБО АХВЯРУ НА ЙМЯ**
**L. YUREVICH, 1673 W. 2 nd ST. #2F,**
**BROOKLYN, N.Y. 11223**

**ПАЧЫНАЮЧЫ З ГЭТАГА НУМАРУ "ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ" БУДЗЕ ДРУКАВАЦЦА З ДАДАТКАМ КРАЁВЫХ НАВІНАЎ АСОБНЫМ ВЫДАНЬНЕМ НА БЕЛАРУСІ.**
**УСІХ, КАМУ ДАРАГАЯ СПРАВА АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ ЗАПРАШАЕМ ДА СУПРАЦОЎНІЦТВА З ВЫДАВЕЦТВАМ І МАТАРЫЯЛЬНАГА ПАДТРЫМАНЬНЯ ЧАСАПІСУ!**

**КРАЁВЫ АДРЫС "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА"**
**220005 МІНСК-5, а.с 185, "Ц.П."**

# ПАДЗЯКА Й ЗАКЛІК

Як і ўзноў можна пераканацца йзь зьмешчаных на 13-15 б.б. чытацкіх водгукаў, наш часапіс даходзіць да што-раз шырэйшых патрыятычных колаў на Бацькаўшчыне ды захапляе іх ідэяй аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы на Беларусі й ейнага ўжыцьцяўленьня праз узнаўленьне там Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Гэты значны посьпех асягнуты за кароткі час жменькай ахвярных і працавітых людзей за невялікія й зь цяжкасьцяй назьбіраныя грошы.

Няцяжка ўявіць, як шмат болей у справе адраджэньня нацыянальнае Праваслаўнае Царквы ў Краі можна было-б зрабіць з большай колькасьцяй супрацоўнікаў ды з багацейшымі фінансавымі магчымасьцямі.

Бяз гэтых апошніх няма як павялічваць абсяг таго, што робіцца, а бяз гэткага павялічэньня няма да чаго прыцягваць новыя й большыя сілы.

Зьмена на лепшае, пакуль што, залежыць, амаль цалкам, ад нашых чытачоў за межамі роднае Зямлі.

І тут, вось, зусім падобна як на Бацькаўшчыне, патрэбнае ўсьведамленьне, што без свае роднае, незалежнае звонку, Праваслаўнае Царквы Беларускаму Народу не займець дзяржаўнае незалежнасьці.

Трэба таксама ўсьведаміць, што гэтую мэту мы асягнем ня з ласкі, хоць афіцыйна й кананічных, ды чужых юрысдыкцыяў, а толькі праз наважнае й неадкладнае тварэньне таго, што нам усялякім правам належыцца, як гэта раней з посьпехам рабілі іншыя народы.

З гэтае падвойнае сьведамасьці павінен прыйсьці й высноў, што ў нашай царкоўнай справе нельга чакаць нямаведама чаго, бо бязмэтнае чаканьне на карысьць ворагам, а трэба памагаць таму, хто, як мы, што можа з посьпехам робіць.

Мы з удзячнасьцяй адзначаем і ставім нясьпешным у прыклад ніжэй пералічаных спадарыняў і спадароў, што гэтую праўду зразумелі ды падалі нам дапамогу: ананімна - 5.оо д., Ю. Васілеўскі - 10.оо д., Б. Даніловіч - 25.оо д., др. М. Дэмковіч - 25.оо д., а. М. Іскрыцкі - 10.оо д., С. Капытка - 10.оо д., Ю. Касьцюкевіч - 20.оо д., др. Ю Кіпель - 25.оо д., К. Мерляк - 25.оо д., С. Мурог - 10.оо д., А. Сёмуха - 5.оо д., др. М. Смаршчок - 30.оо д., А. Тальянскі - 5.оо д., Ул. Целіца - 5.оо д., Я. Юхнавец - 5.оо д.

Асаблівую падзяку за ахвяры па 50 і больш даляраў выказваем сп-ням і сп-рам Б. Данілюку, Р. Данілюку, Р. Галяк і М. Грэбеню, што гэткім чынам дайшлі да пачэснага сьпіску нашых фундатараў, які мы ў цэласьці надрукуем у канцы году.

Як відно, нажаль, лік нашых дабрадзеяў даволі сьціплы, што ледзь дазваляе друкаваць часапіс у мінімальным для эфэктыўнасьці абыйме 16-ці бачынаў, ды не дае магчымасьці дадаць укладкамі да яго, ці асобна выдаць вельмі патрэбныя кожнаму праваслаўнаму беларусу кніжкі, або брашуры.

Няхай-жа ўсе гэтыя словы знойдуць зразуменьне вагі нашае працы ў Вашых, Дарагія Чытачы, думках, ды ўзварушаць Вашыя сэрцы адгукнуцца на патрэбу Божае й нацыянальнае беларускае справы шчодрымі ахвярамі, за якія ня міне Вас ласка з Найвышша!

Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца"

NONPROFIT ORG.
U.S. POSTAGE
PAID
SOMERSET, N.J.
PERMIT NO. 44

BELARUSIAN AUTOCEPHALOUS
ORTHODOX CHURCH
ST CYRIL'S OF TURAU CATHEDRAL
401 Atlantic Ave., Brooklyn, N.Y. 11217-1702
CHURCH MESSENGER
Vol. 25, No. 2, Summer 1997
ISSN 1085-973x

ADDRESS CORRECTION REQUESTED

RETURN ADDRESS:
P.O. BOX 5982
SOMERSET, N.J. 08875-5982